№ 10 (943) 16 сакавіка 2016

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

КДБ: Чыж спрабаваў уцячы з краіны, ён ехаў на хуткасці 220 км/г у бок літоўскай мяжы. Старонка 2.

## Хто яшчэ хоча стаць мільянерам?

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Пуцін загадаў пачаць «вывад асноўных войскаў з Сірыі»

Аналітыкі гадаюць аб прычынах такога рашэння.

Прэзідэнт Уладзімір Пуцін загадаў пачаць вывад асноўных сіл Расіі з Сірыі з 15 сакавіка. Аб гэтым кіраўнік дзяржавы заявіў на сустрэчы з міністрам замежных спраў РФ Сяргеем Лаўровым і міністрам абароны Сяргеем Шайгу.

«Лічу, што задачы, пастаўленыя перад Міністэрствам абароны, у цэлым выкананы. Таму загадваю з заўтрашняга дня пачаць вывад асноўнай часткі нашай вайсковай групоўкі з Сірыйскай Арабскай Рэспублікі», — заявіў Пуцін.

Па словах прэзідэнта РФ, пункты базавання расійскіх узброеных сіл у порце Тартус і на авіябазе Хмеймім «будуць функцыянаваць у ранейшым рэжыме, яны павінны быць надзейна абаронены з сушы, мора і з паветра».

Расійскія СМІ паведамляюць, што Пуцін праінфармаваў прэзідэнта Сірыі Башара Асада аб сваім рашэнні. Новы крок Масквы — гэта, мусіць, вялікі ўдар для Дамаска.

Пакуль няясна, што стаіць за гэтым рашэннем. Аналітыкі звяртаюць увагу на тое, што расійскім войскам не ўдалося рашуча змяніць ход грамадзянскай вайны. У Масквы проста няма рэсурсаў для вядзення працяглага канфлікту.

**Пііанткоўскі: Вывад войскаў з Сірыі — гэта сур'ёзнае паражэнне Пуціна**

Вывад расійскіх войскаў з Сірыі — гэта «сур'ёзная знешнепалітычная і іміджавая параза рэжыму» Уладзіміра Пуціна, напісаў у сябе ў фэйсбуку расійскі палітолаг Андрэй Піянткоўскі. «Украінцы, за вамі чарга зрабіць яшчэ адну, адмовіўшыся ад здзелкі па Данбасе і пакінуўшы Пуціна з яго бандыцкай Лугандоніяй на руках!» — заклікаў Піянткоўскі. Лугандоніяй часам жартам называюць так званыя «Луганскую» і «Данецкую» рэспублікі па першых літарах іх назваў.

Сяргей Гезгала

Працяг на старонцы 4.

# Хто яшчэ хоча стаць мільянерам?

КДБ: На **Япрынцава** заявіў **Чыж**. А доказы на Чыжа з’явіліся ў часе следства.

Юрый Чыж — гэта самы вядомы мультымільянер краіны. Ён пабудаваў вялізную бізнэс-імперыю «Трайпл». Найбольшыя грошы прыносіў гандаль нафтай і нафтапрадуктамі, да якога дапускалі толькі абраных. Адначасова «Трайпл» займаўся будаўніцтвам, гандлем, меў запраўкі, нават футбольны клуб.

Чыж — адзін з нямногіх сапраўды багатых людзей Беларусі, які не кіраваўся прынцыпам «грошы любяць цішыню». Ён часта фігураваў у СМІ, даваў інтэрв’ю, з’яўляўся на адкрытых мерапрыемствах.

Вядомасці яму дадавала блізкасць з Аляксандрам Лукашэнкам. Яны разам адпачывалі. Чыж суправаджаў Лукашэнку на пляжы Арабскіх Эміратаў і горныя схілы Сочы, касіў траву і збіраў бульбу з кавунамі ў Драздах, гуляў у хакей у камандзе прэзідэнта.

Таму затрыманне і стала настолькі гучным. Для Чыжа гэта ўжо не першы турэмны досвед. У маі 2007 года яго арыштоўвалі па справе былога генеральнага дырэктара «Белнафтахіма» Бароўскага. Тады мільянер адседзеў трое сутак у СІЗА, пасля чаго быў вызвалены. Адбывалася тады гэта ціха. Пра затрыманне Чыжа грамадскасць даведалася постфактум. Усе тады пляткарылі, што бізнэсовец проста адкупіўся ад турмы.

Апошнія паўгода пра бізнэс Чыжа прыходзілі не самыя добрыя навіны. Абвал цэнаў на нафту выклікаў падзенне эканомікі Расіі. Гэта, у сваю чаргу, спрычыніла крызіс у будаўнічай сферы. «Трайплу» так і не ўдалося дабудаваць нават гатэль «Кемпінскі» каля плошчы Перамогі ў Мінску. Прыходзілі навіны, што частка актываў Чыжа выстаўлена на продаж, скарочаюць супрацоўнікаў.

Увечары 11 сакавіка маланкай прайшла навіна: Юрый Чыж арыштаваны.

13 сакавіка КДБ пацвердзіў, што бізнэсмен падазраецца ў нясплаце падаткаў у асабліва буйным памеры.

А ў аўторак 15 сакавіка кіраўнік камітэта Валерый Вакульчык агучыў афіцыйную версію, з чым звязаная гэтая гучная крымінальная справа. «Усё нашмат прасцей, чым многія думаюць. Улетку 2015 года ў КДБ з заявай аб супрацьпраўнай дзейнасці Уладзіміра Япрынцава звярнуліся Чыж і два яго партнёры з РФ, — апавёў Валерый Вакульчык. — У ходзе расследавання гэтай крымінальнай справы пры праверцы паказанняў Япрынцава і іншых былі атрыманыя доказы па ўхіленні ад выплаты падаткаў групы кампаній «Трайпл».

Выходзіць, што сам Чыж спачатку здаў свайго даўняга кампаньёна і сябра Уладзіміра Япрынцава, а пазней сам Япрынцаў даў паказанні на свайго былога боса. У выніку абодва бізнэсмен аказаліся ў зняволенні.

Дык у чым канкрэтна абвінавачваюць Чыжа? Як расказаў Вакульчык, па ўказанні бізнэсмена ў Расіі стварылі «ліпавую» фірму, якую ўзначаліў кіроўца Чыжа. Праз яе за мяжу выводзіліся вялікія грошы. Перадалі ёй таварны знак «Трайпла» і нібыта проста плацілі за яго выкарыстанне.

Магчыма, гэта была не адзіная такая фірма. Выглядае, што гаворка будзе весціся пра мільёны даляраў.

А інцыдэнт з затрыманнем бізнэсмена ўвогуле заслугоўвае экранізацыі. Па версіі КДБ, Юрый Чыж уцякаў на машыне з Беларусі ў бок літоўскай мяжы. Пры гэтым мільянер разагнаўся да 220 кіламетраў у гадзіну. Хаця больш лагічна было б ехаць у бок Расіі, з якой у Беларусі няма мяжы.

Тэрміновая прэс-канферэнцыя кіраўніка КДБ сведчыць, што на гэты раз вырашыць справу цягам некалькіх дзён наўрад ці ўдасца.

Няясна, якая будучыня ў кампаній, што належалі Чыжу. Паводле неафіцыйных звестак, яны мелі нямала пазык. Калі гэта сапраўды адпавядае рэчаіснасці, то можа быць альбо продаж іх іншаму інвестару, альбо нацыяналізацыя. Другі варыянт пакуль выглядае менш імаверным.

У панядзелак на нарадзе па ЖКГ Аляксандр Лукашэнка сказаў: «Недатыкальных у нас у краіне няма». Хай гэта і не было адрасавана да Чыжа, але добра пасуе да яго сітуацыі.

**Зміцер Панкавец**

**Пяць фактаў пра Юрыя Чыжа — старонка 11.**


BIATHLON.BY

**Юрый Чыж (злева) цісне руку старшыні КДБ Валерыю Вакульчыку.**

**Арыштаваны «мясны кароль» Яўген Баскін**

Уласнік кампаніі «Сэрвалюкс» лічыўся самым багатым чалавекам Магілёўшчыны. Ён праславіўся дзякуючы мясным брэндам «Браты Грыль», «Пятруха». Уваходзіў у Топ-10 самых паспяховых бізнэсменаў краіны. Паводле КДБ, ён нанёс шкоду дзяржаве ў памеры 370 мільярдаў рублёў (каля 17 мільёнаў даляраў).

Баскіна затрымалі ў аэрапорце перад вылетам за мяжу.

Разам з ім арыштавана яшчэ 15 службовых асоб «Сэрвалюкса».

**Паўлоўскі памілаваны**

Як паведаміў старшыня КДБ, уладальнік групы кампаній «Біяком» сенатар Андрэй Паўлоўскі кампенсаваў у кратным памеры прычыненую шкоду — 20 млн даляраў — і быў вызвалены ад крымінальнай адказнасці. Нагадаем, 30 кастрычніка 2015 года Андрэй Паўлоўскі быў пазбаўлены сенатарскай недатыкальнасці па запыце праваахоўных органаў. У дачыненні да Паўлоўскага і яшчэ шасці прадстаўнікоў кіраўніцтва кампаніі «Біяком» былі распачаты крымінальныя справы за ўхіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры.

## Сціслa

**Буслы прыляцелі на паўмесяца раней**

У Беларусь з выраю вярнуліся буслы. Звычайна яны масава прылятаюць у канцы сакавіка, сёлета — хутчэй. «У іх дастаткова энергіі, таму кароткачасовае пагаршэнне надвор’я яны павінны перанесці без асаблівых праблем», — кажа арнітолаг Дзмітрый Вінчэўскі з «Аховы птушак Бацькаўшчыны».

**Проста ішоў да мора**

На армяна-турэцкай мяжы затрымалі беларуса, які знік летась.

37-гадовы Юрый Люцко ў сакавіку 2015-га выйшаў з дому і не вярнуўся. Ураджэнец Віцебска пражывае ў вёсцы Шурычы Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. Мужчына мае псіхічнае расстройства. Зніклага безвынікова шукалі і валанцёры, і міліцыя.

І вось амаль праз год уцякач знайшоўся за тысячы кіламетраў ад роднага дома — аж у Арменіі. Яго затрымалі памежнікі, бо ён распытваў жыхароў прыгранічнай вёскі, як яму дайсці да Чорнага мора.

Хворы чалавек, а дайшоў жа за свет жывым і без ніводнай драпіны.

## Талака

**Пачаўся збор сродкаў на выданне «Хронік Нарніі» па-беларуску**

«Хронікі Нарніі» К.С.Льюіса — адна з самых папулярных кніг XX ст. Кнігу плануецца выдаць накладам 2000 экзэмпляраў. Частку накладу падораць беларускім школкам. Да кнігі будзе прыкладацца аўдыёдыск з тэкстам рамана. Ініцыятары збіраюць грошы на друк праз інтэрнэт-пляцоўку talaka.by. Ахвярадаўцы атрымаюць падарункі, у тым ліку — саму кнігу па ніжэйшай цане. Па дадатковую інфармацыю звяртайцеся да арганізатараў выдання:
Аляксей Шэін +375 29 651-26-65, alaksiejs@gmail.com
Андрэй Кім +375 29 554-34-59 spadar.kim@gmail.com

## Самае чытанае на nn.by за 9—15 сакавіка

1. Украінскія турысты пра Беларусь: Мінск — гэта сапраўдны шок!
2. Пяць фактаў пра арыштаванага мультымільянера Юрыя Чыжа
3. Затрыманы кіраўнік «Трайпла» Юрый Чыж
4. Дэсант расійскіх чарнасоценцаў высадзіўся ў Акадэміі навук Беларусі і БДУ
5. Сацыяльныя сеткі іранізуюць з затрымання мільянера Чыжа — падборка жартаў
6. Святлана Калінкіна: Чыжа шкада
7. 7 самых сэксуальных супермадэляў у гісторыі
8. Дзень задаўся: фотарэпартаж Сяргея Зініна з беларускай глыбінкі
9. А вы здолелі б так змяніцца? ФОТА
10. У гіпермаркетах ProStore звузіўся асартымент, паліцы пусцеюць ФОТА

# Колькі жывуць мужчыны і жанчыны ў краінах свету пасля выхаду на пенсію

Пасля нарады ў Аляксандра Лукашэнкі стала канчаткова ясна, што пенсійны ўзрост у Беларусі дакладна будзе павялічаны. На сённяшні момант мужчыны афіцыйна сыходзяць у адпачынак у 60 гадоў, а жанчыны — у 55.

Існуе тры варыянт, як жа будзе павялічаны пенсійны век: 65 і 60, 63 і 60, 63 і 58 гадоў для мужчын і жанчын адпаведна.

Працўнікі павышэння пенсійнага веку часта выкарыстоўваюць аргумент: маўляў, каб павысіць узроставы бар'ер, трэба спачатку, каб у краіне ўзрасла працягласць жыцця. Што вы на немцаў ківаеце, калі тыя жывуць па 85 гадоў, а нашы мужчыны ледзь да 60 дажываюць.

«Наша Ніва» вырашыла параўнаць лічбы, колькі ж у сярэднім жывуць мужчыны і жанчыны па ўсім свеце пасля выхаду на пенсію.

Мы грунтаваліся на звестках Сусветнай арганізацыі аховы здароўя за 2013 год, калі глядзелі чаканую працягласць жыцця ў розных краінах.

Варта заўважыць, што ва ўсім свеце жанчыны жывуць даўжэй за мужчын. Толькі ў дзвюх афрыканскіх краінах сярэдні век прадстаўнікоў абодвух палоў роўны — Нігер (па 59 гадоў) і Малі (па 57). Толькі на адзін год у сярэднім жанчыны перажываюць мужчын у Катары (80 і 79) і Кувейце (79 на 78), на два — у Бахрэйне і Брунэі.

А вось у нашым рэгіёне жанчыны жывуць значна даўжэй за мужчын. У Беларусі гэта розніца складае аж 11 гадоў, у Літве і Расіі — 12, у Эстоніі, Украіне і Латвіі — па 10, у Малдове — 9, у Польшчы — 8.

**Як па-Вашаму, пенсійны ўзрост павінен быць…**

| | | |
|---|---|---|
| роўны для мужчын і жанчын | 620 | 36% |
| вышэйшы для мужчын | 204 | 12% |
| вышэйшы для жанчын | 100 | 6% |
| трэба такая сістэма, дзе б кожны сам сабе выбіраў узрост выхаду на пенсію і, адпаведна, пазнейшы памер пенсіі | 790 | 46% |

Усяго прагаласавала 1714.




Сярэдняя працягласць жыцця жанчын пасля выхаду на пенсію.




Сярэдняя працягласць жыцця мужчын пасля выхаду на пенсію.

**Японцы маюць магчымасць сыходзіць на пенсію ад 60 гадоў — як жанчыны, гэтак і мужчыны. Але ў такім выпадку штомесячныя выплаты будуць урэзаныя на 25%. Каб зарабіць на большую пенсію, японцам трэба працаваць да 65 гадоў**

У Заходняй Еўропе гэтая розніца не такая катастрафічная. Звычайна яна складае ад 3 да 6 гадоў.

За апошнія 20 гадоў вырасла сярэдняя працягласць жыцця як беларусаў, гэтак і беларусак. У 1995 годзе мужчына ў нашай краіне пражываў у сярэднім 63 гады, цяпер — 67,8. У жанчын за гэты самы часавы прамежак лічбы выраслі з 74,3 да 78,4.

Сярод еўрапейскіх краін сярэднюю працягласць жыцця, меншую, чым у Беларусі, маюць Азербайджан (выхад на пенсію ў 62 для мужчын і ў 60 для жанчын), Украіна (60 і 57), Арменія (63 гады і для мужчын, і для жанчын), Малдова (62 і 57) і Расія (60 і 55).

Фактычна для ўсёй Еўропы сёння ўжо норма, што мужчыны выходзяць на пенсію ў 65 гадоў, а ў некаторых прынятыя праграмы паступовага павелічэння гэтага ўзросту да 67 (Данія, Харватыя, Францыя, Германія, Галандыя, Польшча). Рэкардсменамі могуць стаць ірландцы, дзе ад 2028 запланаваны выхад на пенсію аж у 68 гадоў. Дарэчы, менавіта Ірландыя — рэкардсмен па эканамічным росце ў апошнія 50 гадоў.

У той жа час беларускія жанчыны — абсалютныя рэкардсменкі ў Еўропе па працягласці жыцця на пенсіі, аж 23 гады. Вышэйшыя паказчыкі маюць толькі азіяцкія краіны — Японія, Паўднёвая Карэя і В'етнам. І нават у выпадку павелічэння пенсійнага ўзросту беларускія жанчыны ўсё адно павінны застацца аднымі з лідараў у Еўропе, бо, як было сказана вышэй, у краінах Еўрасаюза таксама ідзе праграма па павелічэнні пенсійнага веку.

Што тычыцца Японіі, то тут узрост выхаду на адпачынак можа карэляваца. Японцы маюць магчымасць сыходзіць на пенсію ад 60 гадоў (як жанчыны, гэтак і мужчыны), але ў такім выпадку штомесячныя выплаты будуць урэзаныя на 25%. Каб зарабіць на большую пенсію, японцам трэба працаваць да 65 гадоў.

А вось у мужчын Беларусі ў гэтым плане зусім бязрадаснае становішча. У сярэднім наш мужчына пражывае ўсяго 7 гадоў на пенсіі, у Заходняй Еўропе — 13—16. Калі пенсійны ўзрост павялічыцца да 65, то ўвогуле атрымаецца 2 гады — менш толькі ў Казахстане і Туркменістане. У апошняй краіне сярэдні ўзрост мужчын увогуле не даходзіць да пенсійнага веку.

**Зміцер Панкавец**

# Ці можа яўрэйка нарадзіць таленавітае дзіця?

У Мінску прайшла канферэнцыя з удзелам расійскага шавініста Бабурына і супрацоўнікаў Акадэміі навук Беларусі. **Выступы акадэмікаў шакавалі.**

11—13 сакавіка ў Мінску праходзіла канферэнцыя «Сусветны лад — супрацьвага сусветнаму панаванню». Арганізавалі яе расійскія «Міжнародная славянская акадэмія» і «Усеславянскі саюз». Ад Беларусі арганізатарам стала грамадскае аб'яднанне «Русь», якое існуе ў шчыльным кантакце з «Рассупрацоўніцтвам».

Госці з Расіі атрымалі найлепшыя залы сталіцы: пасяджэнні праходзілі ў Нацыянальнай бібліятэцы, зале прэзідыума Акадэміі навук, у БДУ. Тры дні ўдзельнікі абмяркоўвалі выпрацаваную імі на папярэдніх чатырнаццаці (таксама мінскіх) канферэнцыях «Родавую ідэалогію Ладу», якая заклікана «супрацьстаяць антырускай спецаперацыі Захаду».

Працяг на старонцы 7.



# Прадпрымальнікі чацвёрты раз выйшлі на вуліцу супраць указа №222

14 сакавіка іпэшнікі прыйшлі да Міністэрства падаткаў і збораў.

Першапачаткова акцыя планавалася ў выглядзе санкцыянаванага «Маршу прадпрымальнікаў», але ўлады адмовілі ў правядзенні яе арганізатарам. Тады, каб не парушаць закон, але выказаць нязгоду, лідар прадпрымальніцкай арганізацыі «Перспектыва» Анатоль Шумчанка і палітык Мікола Статкевіч заклікалі людзей у адзін час занесці свае заявы за адмену ўказа №222 у Міністэрства падаткаў і збораў. Месціцца яно каля самага Дома ўрада.

Як і ў мінулы раз, папрыязджалі людзі з іншых гарадоў, былі нават з Лоева. Таму каля міністэрства ў панядзелак было дзесьці 300 чалавек, лунаў адзін бела-чырвона-белы сцяг. Праўда, яго прынеслі не бізнэсоўцы, а бясстрашная пенсіянерка Ніна Багінская.

Людзі сабраліся дзесьці каля 13.00, у той час у міністэрстве быў абед, таму перадаць заявы адразу не ўдалося. Чакаючы, пакуль чыноўнікі наядуцца, перад натоўпам выступалі Шумчанка і Статкевіч.

Лідар «Перспектывы» падкрэсліваў, што людзі прыйшлі да міністэрства не рабіць рэвалюцыю, а вярнуць магчымасць нармальна працаваць.

Людзі скандавалі: «Работу, работу».

Неўзабаве з'явіўся міліцыянт, які склаў пратакол толькі на аднаго ўдзельніка акцыі, што трымаў у руках расцяжку з крытыкай дарожнай сістэмы «Белтол». Ім аказаўся мужчына, у якога свая транспартная кампанія, але ён ужо не можа сплачваць усе тыя штрафы, што прыходзяць яму праз недасканалую сістэму аплаты руху па платных дарогах.

Трэба ж было так супасці, што гэты мужчына аказаўся аднавяскоўцам міліцыянта, што складаў на яго паперы. Яны з вёскі Блонь Пухавіцкага раёна. Перавозчык сказаў, што яны хадзілі ў адну школу, а цяпер жыццё раскідала іх па розныя бакі.



Іпэшнікі пратэставалі ў форме аднпачасовай падачы заяў.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

На гэтага пратэстоўца міліцыя склала адміністратыўны пратакол. Трэба ж было такому здарыцца — мужчына аказаўся аднавяскоўцам міліцыянта. Яны з вёскі Блонь Пухавіцкага раёна.

Але гэты выпадак — адзіны, калі міліцыя ўмяшалася ў пратэст.

У астатнім прадпрымальнікі вырашалі свае пытанні з міністэрствам самастойна, пачаўшы званіць у прыёмную праз 5 хвілін ад канца абеда.

Падняўшы слухаўку, сакратарка сказала, што міністра няма на месцы. А калі ў яе спыталі, ці чуюць яны, што адбываецца ўнізе, на іншым канцы адказалі: «Ну і што?»

У выніку людзі пастанавілі, што будуць стаяць на вуліцы, пакуль да іх не спусціцца хоць хто з міністэрства.

І да іх спусціліся — гэта быў прэс-сакратар Сяргей Шкут. Пасля кароткай пікіроўкі з Шумчанкам ён сказаў, што прыме ўсе заявы і на кожную будзе афіцыйны адказ.

На гэтым акцыя скончылася — Шумчанка сказаў людзям, што ніхто не пакіне барацьбы за адмену ўказа №222. І калі гэты сход ля міністэрства нічога не зменіць, то прадпрымальнікі звернуцца напрост да Лукашэнкі. Таксама лідар «Перспектывы» не выключыў правядзення яшчэ адной акцыі пратэсту. Дата будзе агучана пазней.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Амапаўцы сведчылі ў судзе, што бачылі Мацкевіча на мітынгу. А ён паказаў пашпарт, што яго не было ў краіне

Суд Цэнтральнага раёна Мінска 15 сакавіка накіраваў на дарасследаванне справу палітолага Уладзіміра Мацкевіча, якога судзілі нібыта за ўдзел у акцыі ў падтрымку індывідуальных прадпрымальнікаў 15 лютага ў сталіцы.

«Суд ужо скончыўся. Ён завяршыўся вельмі смешным рашэннем суддзі, — расказаў Мацкевіч. — Замест таго, каб спыніць справу праз адсутнасць доказаў або проста апраўдаць мяне, яна вынесла рашэнне накіраваць справу назад у міліцыю на дарасследаванне».

Мацкевіч адзначыў, што паказаў у судзе выкарыстаныя квіткі на самалёт і штамп у пашпарце, якія пацвярджаюць, што 15 лютага ён знаходзіўся ў Варшаве. Аднак супрацоўнікі АМАПа, якія выступалі сведкамі ў судзе, сцвярджалі, што бачылі Мацкевіча на акцыі.

«Цяпер у міліцыі ёсць магчымасць звярнуцца ў Дзяржпагранкамітэт Беларусі па пацвярджэнне таго, што мяне не было ў гэты дзень у краіне. Штампа ў пашпарце аказалася для гэтага недастаткова», — сказаў Мацкевіч.

Паводле яго слоў, адвакатка растлумачыла яму, што такое рашэнне суддзя прыняла, хутчэй за ўсё, з-за таго, што не прадугледжаная працэдура яго абскарджвання. Пры гэтым Мацкевіч падкрэсліў, што мае намер скардзіцца на дзеянні супрацоўнікаў АМАП, якія лжыва сведчылі ў судзе.

**Таццяна Каравянкова, БелаПАН**



ЕЎРАРАДЫЁ

Мацкевіч вывеў ахоўнікаў парадку на чыстую ваду.

## Педуніверсітэт не працягнуў кантракт з лідарам «Тройцы» Іванам Кірчуком

Вядомы фалькларыст і лідар этна-трыа «Тройца» Іван Кірчук завяршае выкладчыцкую дзейнасць у Педагагічным універсітэце імя Максіма Танка. З даследчыкам, які 19 гадоў адпрацаваў на кафедры этнаграфіі і этналогіі, не працягнулі кантракт:

«Няма аўдыторыі, няма гадзін, прадмета, а яшчэ і некалькі гадоў да пенсіі засталося. Але не вельмі прыемна, што ніхто не паразмаўляў, нібыта маладога спецыяліста на падворак выкінулі, — кажа Іван Кірчук. — Гаворка ідзе ж не пра грошы, бо ўсім вядома, колькі зарабляюць у краіне выкладчыкі. Гаворка ідзе пра тое, што кабінет, які працаваў там 19 гадоў, прыносіў славу і кафедры, і ўніверсітэту, цяпер аказаўся непатрэбным».



Пра тое, што музыка стаў «свабодны», даведаліся ў Інстытуце культуры Беларусі. Кірчуку далі кабінет, выкладчыцкія гадзіны. І ў выходныя ўдзельнікі «Тройцы» дапамаглі перавезці інструменты, лялькі, ручнікі, адзенне, батлейку, 2000 дыскаў у новы кабінет.

**Еўрарадыё**

## Ганна Шарэйка і Вальдэмарас Норкус вырашылі пажаніцца ў СІЗА

«У пачатку сакавіка мы падалі заяву ў ЗАГС пра тое, што хочам зарэгістраваць шлюб. На якім этапе знаходзіцца наша заява?» — спытаў Норкус на пачатку чарговага судовага пасяджэння ў Вярхоўным судзе.

Ганна Шарэйка стварыла прыбытковую птушкафабрыку. Яе выбралі ў савет рэспублікі. Але неўзабаве яна апынулася пад вартай па абвінавачванні ў эканамічных злачынствах.

Сваёй віны яна не прызнае і на працэсе трымаецца з гонарам.

**Сяргей Гезгала**

## Піянткоўскі: Вывад войскаў з Сірыі — гэта сур'ёзнае паражэнне Пуціна

Працяг са старонкі 1

«Рашэнне аб вывадзе расійскіх войскаў з Сірыі магчыма было і чакалася, але ў нейкай доўгатэрміновай перспектыве. Тое, што яно было прынятае сёння вечарам [14 сакавіка], з'яўляецца абсалютнай сенсацыяй, улічваючы яшчэ тое, як менавіта яго агалошванне адбывалася. Такое відовішча трэба было бачыць, — адзначае Піянткоўскі. — Можна было заўважыць, што Пуцін, Лаўроў і Шайгу знаходзіліся пад найцяжэйшым стрэсам. Калі дазволена будзе скарыстацца мовай расійскай палітычнай эліты, яны «неслі полнейший бред». Паспрабуйце супаставіць іх бляянне з тым, што крамлёўская прапаганда даводзіла нам усе апошнія паўгода», — піша публіцыст.

«Піплу тлумачылі, што асноўная мэта гэтай аперацыі была ў тым, каб спыніць тэрарыстаў ІД на далёкіх рубяжах і яны не прыйшлі да нас у Расію. І вось цяпер правадыры дакладваюць нам, што за ўвесь гэты час забіта 17 палявых камандзіраў. Усё. Цяпер наша «місія выкананая» і вайскоўцы з гонарам вяртаюцца на Радзіму. А як жа быць з астатнімі, акрамя вось гэтых 17-ці? Хто іх цяпер будзе сустракаць на далёкіх рубяжах?

Сітуацыя выглядае як вывад [савецкіх] войскаў з Афганістана», — робіць выснову Піянткоўскі.

**СГ**

# «Артыкуль, афіціяльна, размящчаецца»: усё, што трэба ведаць пра ўзровень валодання мовай чыноўнікамі

Гамяльчук Ігар Случак спрабуе сабраць статыстыку па беларускамоўных зваротах да органаў улады. Для гэтага ён піша лісты ў мясцовыя выканкамы з просьбаю паведаміць такія лічбы.

Вядома, піша па-беларуску. У гэтым выпадку заканадаўства абавязвае чыноўнікаў адказваць Ігару на мове звароту.

Але як выглядаюць такія адказы? Глядзіце самі.



Молодечненский районный исполнительный комитет

Отдел по работе с обращениями граждан и юридических лиц

222310, Минская область, г. Молодечно, ул. Виленская, 6, тел. 77 13 84, 77 28 27 ф, 73 85 28

25.02.2016 №14-4/2

Случаку Ігару Уладзіміравічу

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

У адпаведнасці з артыкулем 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі мовамі ў Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы.

На аснове сказанага Маладзечанскі раенны выканаўчы камітэт не вядзе статыстыкі по пытаниям, выказанным ў Вашым пісьме 16.02.2016.

З павагай,

Начальнік отдела С.В.Юрчык

**Вось адзін такі з Маладзечанскага райвыканкама. Тамтэйшыя народавы слугі не могуць правільна напісаць назву краіны, у якой жывуць.**



Гомельскі абласны выканаўчы камітэт | Гомельский областной исполнительный комитет

РАГАЧОЎСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ | РОГАЧЁВСКИЙ РАЙОННЫЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

вул. Інтэрнацыянальная, 7, 247673, г. Рагачоў, Гомельская вобл., тэл. (02339) 4 12 10, факс 4 22 30, e-mail: rogachrec@mailgov.by, бягучы рахунак 3604480260014 у ЦБП № 324 філіяла № 312 ААТ «ААБ Беларусбанк» г. Рагачова код 673, УНП 400042764

ул. Интернациональная, 7, 247673, г. Рогачёв, Гомельская обл., тел. (02339) 4 12 10, факс 4 22 30, e-mail: rogachrec@mailgov.by, текущий счет 3604480260014 в ЦБУ № 324 филиала № 312 ОАО «АСБ Беларусбанк» г. Рогачёва код 673, УНП 400042764

25.01.2016 № 06-09/Кл-4

На № ______ ад ______

Случаку І.У.

Рагачоўскі раённы выканаўчы камітэт (далей – райвыканкам) на Ваш зварот інфармуе, што у райвыканкаме не вядзецца статыстыка паступлення зваротаў у разрезе моў, таксама інфармуе, што Законам Рэспублікі Беларусь «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» ад 18.07.2011 № 300-З прадастаўленне запытаннай інфармацыі у дадзеным выпадку фізічным асобам не предугледжана.

У адпаведнасці з артыкулам 6 Закону Рэспублікі Беларусь ад 10.08.2008 № 455-З «Аб інфармацыі, інфарматызацыі і захове інфармацыі» дзяржауныя органы, грамадскія аб'яднанні, службовыя асобы абавязаны прадастаўляць грамадзянам Республікі Беларусь магчымасць азнакамлення з інфармацыяй, якая закранае іх правы і законныя інтарэсы ў парадку, устаноўленным гэтым Законам і іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

У дадзеным выпадку запытаная інфармацыя не закранае Вашы правы і (або) законныя інтарэсы і паставы для яе прадастаўлення адсутнічаюць.

Разам з тым, на афіціяльным інфармацыйным сайце райвыканкама размящаецца інфармацыя аб працы за зваротамі грамадзян, с якой Вы маеце магчымасць азнаеміца.

У выпадку нязгоды з дадзеным адказам, у адпаведнасці з пунктам 1 артыкула 20 Закону Рэспублікі Беларусь №300-З «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» Вы маеце права абскардзіць яго ў Гомельскім абласным выканаўчым камітэце.

Старшыня райвыканкама С.Ф.Дзенісенка

Раждаева 8 (02339) 4 11 62

**А тут ужо старшыня Рагачоўскага райвыканкама С.Дзенісенка падпісвае паперу, у якой раіць «азнаеміца» з «інфармаціяй», што «размящаецца» на афіцыйным сайце.**



РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
Столінскі раённы выканаўчы камітэт Брэсцкай вобласці
225510, г. Столін, вул. Савецкая, 69
02.03.2016 № 04-30/03
На № 04-30/03 ад 28.02.2016

Случак Ігару Уладзіміравічу

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

Столінскі раёны выканаўчы камітэт паведамляе, што Ваш зварот «Аб прадстаўлені інфармацыі» разгледжаны.

У адпаведнасці з артыкулам 2 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб зваротах грамадзян», сфера дзеяння названага Закона распаўсюджваецца на звароты (заявы, прапановы, скаргі) грамадзян, а не на прадстаўленне інфармацыі.

Акрамя таго, падрыхтоўка і сістэматызацыя запытваемай Вамі інфармацыі, улічваючы яе аб'ём і структуру, патрабуе значных працоўных і матэрыяльных выдаткаў і пацягне адцягненне ад выканання прамых функцыянальных абавязкаў спецыялістаў райвыканкама.

У адпаведнасці з вышэйпададзеным, прадставіць запытаную інфармацыю не прадстаўляецца магчымым.

У выпадку незгоды з дадзеным адказам, Вы маеце права звярнушца у Брэскі абласны выканаўчы камітэт (224005, г.Брэст, вул.Леніна, 11).

Кіраўнік справамі О.Л.Кулажынскі

**Як кажа сам Ігар, без памылак увогуле — дзесьці 10% адказаў. У большасці памылкі дробныя, а такіх, як гэты адказ з Брэста, — адсоткаў 20%.**



НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДЭПУТАТ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ | НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ДЕПУТАТ ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

вул. Савецкая, 11, 220010, г. Мінск | ул. Советская, 11, 220010, г. Минск

27.01.2016 № 127

246012, г. Гомель,

Случаку І.У.

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

Мною разгледжана Ваша прапанова наконт унясення змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў».

Па сутнасці звароту паведамляю Вам, што я не падтрымліваю Вашу прапанову. На мой погляд, прапанаваныя Вамі змяненні ўскладнят і павялічат час выконвания дакументаў аб давядзенні да ведама спажыўца інфармацыі аб тавары.

Нагадваю, што артыкул 13 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» прадугледжвае ўжыванне беларускай **альбо** рускай мовы ў сферы абслугоўвання. Лічу неабходным заставіць права выкарыстання дзяржаўных моў за вытворцамі тавараў (работ, паслуг).

З павагай,

Дэпутат Д.І. Харытончык

**Такі ж і дэпутат Харытончык.**



ПІНСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАУЧЫ КАМ1ТЭТ

вул. Дняпроускай флатылп, 21, 225710, г. Пінск Брэсцкай вобласці. Тэл.: (8 0165) 31 72 60, 31 66 70; факс 31 64 43

e-mail: contact@pinskrik.brest.by

р/р 3604471170011 у разлікова-касавым цэнтры № 37 у г. Пінску філіяла ААТ «Белаграпрамбанк» -Брэсцкае абласное упрауленне,

код банка 150501401 УНН 200079960 ОКПО 04062434

**Вось яшчэ адно вычварэнне. «Кам1тэт, вобласц, флатылп»: людзі гатовыя гвалціць мову, замест таго каб выдаткаваць адну хвіліну на пераключэнне клавіятуры.**

## Суперніцтва бацькі і сына за жанчыну ў Крэве часоў Міндоўга: Някляеў напісаў апавяданне, якое можа стаць сцэнаром для блокбастара

Крэва. XIII стагоддзе. Стары бацька пакахаў жонку сына. І яна адказала яму ўзаемнасцю. Такая завязка новага апавядання Уладзіміра Някляева «Лапаціна», надрукаванага ў «Дзеяслове» №1'2016.

Бацька лічыць, што яму пара «пад лапаціну» — нямоглых людзей у Крэве па іх жаданні забівалі на ахвярніку на святой гары.

Паводле звычаю, забіваць бацьку мусіў малодшы сын. І рабіць тое лапацінай, на якой садзяць хлеб у печ. Але меншы сын старога Ціта аднарукі, і жонка сярэдняга сына, Мілава, не хоча адпускаць старога — у каханні ён спадабаўся ёй больш за мужа.

Бацька і ягоныя сыны — паганцы, Мілава — хрысціянка. А тут яшчэ свае інтарэсы маюць вайдэлот, агент Міндоўга, і Крыва-Крывэйта.

Пісьменнік скруціў у тугі вузел сюжэт з гісторыі ВКЛ, беларускія «праклятыя пытанні», шэкспіраўскія страсці і імамураўскую легенду пра Нараяму.

Гістарычны антураж у «Лапаціне» — на другім плане. На першым — чалавечая псіхалогія, падобная ва ўсе часы. Таму аўтар і называе свой твор прыпавесцю.



Руіны велікакняскага замка ў Крэве. Паводле фота Яна Булгака.

Цікава таксама, як пісьменнік апісвае логіку «пацанскага гонару» Міндоўгаў і да іх падобных. У іх лёгка прачытваюцца некаторыя законы палітычнага дзеяння альфа-самцоў нашага часу.

Дарэчы, сыноў у старога ўладарнага Ціта — трое... Апавяданне сапраўды шматслойнае.

Захапляльны, непрадказальны сюжэт, паэтычная містыка Старой Літвы і аўтарская наўмольнасць робяць апавяданне маленькім шэдэўрам.

Пастаўлены па ім фільм таксама мог бы стаць вялікім поспехам.

Апавяданне спадабаецца нават тым, хто не надта любіць мастацкую літаратуру.

**Андрэй Дынько**

## Сцісла

### На канцэрце «Вопляў Відаплясава» ў Мінску загарэўся баян

7 сакавіка культавы ўкраінскі гурт выступіў у мінскім «Прайм-холе», што ў гандлёвым цэнтры «Замак». Публіка захоплена вітала музыкаў, некаторыя прынеслі з сабой на канцэрт украінскія сцягі. Незвычайнае здарэнне адбылося пры канцы выступу: раптам спалахнуў баян Алега Скрыпкі, які музыка паставіў занадта блізка да гарачай асвятляльнай прылады.

### «Еўрабачанне» не ўбачыла палітыкі ў песні аб дэпартацыі крымскіх татараў

Еўрапейскі вяшчальны саюз, які займаецца арганізацыяй «Еўрабачання», не знайшоў палітычнага кантэксту ў песні ўкраінскай спявачкі Джамалы «1944», прысвечанай дэпартацыі крымскіх татараў. Эксперты прыйшлі да высновы, што назва і тэкст песні не парушаюць правілаў «Еўрабачання».

### Выйшаў другі нумар альманаха «Гарбузік»

Пабачыў свет другі выпуск літаратурна-забаўляльнага дзіцячага альманаха «Гарбузік», які выдае Саюз беларускіх пісьменнікаў. «Фішкай» нумара стала гульня-«хадзілка». Яе тэма адпавядае задуме выпуску — цудам свету і Беларусі. Альманах ёсць у мінскіх кнігарнях і ў незалежных распаўсюднікаў.

### Новы трэйлер «Гульні тронаў» б'е рэкорды праглядаў

Трэйлер шостага сезона папулярнага серыяла «Гульня тронаў», апублікаваны ў сецціве 8 сакавіка, прагледзела больш як 50 мільёнаў карыстальнікаў інтэрнэту. Гэта найлепшы вынік праглядаў сярод усіх трэйлераў. Стваральнікі серыяла старанна хаваюць інфармацыю, што да развіцця сюжэту ў новай стужцы, каб захаваць цікавасць гледачоў аж да прэм'еры 24 красавіка.

### Новы лаўрэат «Гліняната Вялеса» — Франц Сіўко

Традыцыйна ў сакавіку арганізацыйны камітэт літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» называе чарговага лаўрэата — сёлета ім стаў віцебскі празаік Франц Сіўко. Узнагароду пісьменніку прынёс зборнік прозы «Плебейскія гульні». Імпрэза ўганаравання лаўрэата адбудзецца ў маі ў Полацку. «Гліняны Вялес» — найстарэйшая літаратурная прэмія найноўшай Беларусі, заснаваная ў 1993 Таварыствам Вольных Літаратараў.

**СМ**

# Мама Андрэйкі Семіліта, які рабіў у шпіталі снегавічкоў: «У нас 100% рэмісія! Як я вам усім удзячная!»

«Вельмі шмат хочацца напісаць, хочацца крычаць ад радасці, каб чуў увесь свет, — напісала Алена Семіліт у фэйсбук. — Я не стамлюся паўтараць, як я ВАМ УСІМ УДЗЯЧНАЯ!!!!!!!!!!!!»

Маленькі ўкраінскі хлопчык Андрэйка Семіліт знаходзіцца ў Беларусі, ён праходзіць хіміятэрапію ў Гомелі, у стацыянары. Для замежнікаў лячэнне ў Беларусі платнае. Родныя Андрэйкі збіраюць грошы сярод землякоў у Чаркасах. Валанцёры дапамагаюць ім у Беларусі.

Каб сабраць патрэбныя 35 тысяч даляраў, хлопчык уласнаручна шыў навагодніх снегавікоў. Цана вырабу — 120 грыўняў, або 5 даляраў, або 90 тысяч беларускіх рублёў.

Па словах мамы Андрэя, у мінулы чацвер была зробленая апошняя пункцыя, якая была вырашальнай. Наперадзе яшчэ шмат дзён хіміятэрапіі для падтрымання вынікаў, аналізаў і яшчэ амаль дзясятак пункцый.

«У нас 100% рэмісія!!!!! Цяпер я разумею, што гэтыя 10 месяцаў хваляванняў, веры, слёз, у пастаяннай вайне за жыццё майго золатка пройдзеныя і далі вельмі добрыя вынікі! Я ўдзячная за кожнае паведамленне, ліст, каментар, рэпост, вядома, за кожную капейчыну. Дзякуючы Вам, мы змаглі шмат!» — напісала Алена.





У бальнічнай палаце Андрэйка шыў снегавічкоў, каб сабраць грошы сабе на лячэнне...



...Сёння ён ужо гуляе з мамай.

## У Тэхналагічным універсітэце змяніўся рэктар — упершыню за 30 гадоў

Аляксандр Лукашэнка прызначыў Ігара Войтава рэктарам Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта. Кіраўнік гэтай ВНУ не змяняўся аж ад 1986 года, калі рэктарам стаў Іван Жарскі. Тады навучальная ўстанова называлася інакш — Беларускі тэхналагічны інстытут імя Кірава (перайменаваны ў 1993 годзе).

Івану Жарскаму 71 год, ён родам з вёскі Вербніцы Навагрудскага раёна. Скончыў Тэхналагічны інстытут. Усё жыццё адпрацаваў у сваёй альма-матэр. Спачатку аспірантам на кафедры агульнай і неарганічнай хіміі, а ў 1981 годзе стаў прарэктарам ВНУ, у 1986 — рэктарам. Іван Жарскі кандыдат хімічных навук, прафесар.

Пры Жарскім былі выпадкі, калі з Тэхналагічнага адлічалі студэнтаў за палітычную дзейнасць. Аднак былі і процілеглыя выпадкі. Напрыклад, у кастрычніку 2007 года Іван Жарскі асабіста прыняў рашэнне не выключаць з ВНУ студэнта Змітра Падрэза, якога перад гэтым затрымалі з налепкамі «Еўрапейскай Беларусі» ў Мядзелі. Жарскі стаў на абарону Падрэза, хаця кіраўніцтва факультэта выступала за выключэнне.

Новым рэктарам БДТУ стаў былы кіраўнік Камітэта па навуцы і тэхналогіях Ігар Войтаў. Яму 54 гады, нарадзіўся ў Мінску. Калі да ўлады прыйшоў Лукашэнка, то Войтаў стаў намеснікам міністра прыродных рэсурсаў. Выкладаў на геафаку БДУ. Ад 2009 да 2013 узначальваў Камітэт па навуцы і тэхналогіях.

Апошнім часам Войтаў быў прарэктарам БДТУ па навучальнай рабоце і міжнародным навуковым і адукацыйным супрацоўніцтве.

Раней БДТУ найперш лічыўся кузняй кадраў у лясной, хімічнай, паліграфічных галінах. Апошнім часам універсітэт развівае накірунак інфармацыйных тэхналогій.

**Зміцер Панкавец**



Іван Жарскі быў рэктарам 30 гадоў.



Новым рэктарам БДТУ стаў былы кіраўнік Камітэта па навуцы і тэхналогіях Ігар Войтаў.

**Хто з рэктараў найбольш працяглы час знаходзіцца на сваёй пасадзе:**

1. Валерый Башметаў (Віцебскі тэхналагічны ўніверсітэт): ад 1993 года.
2. Вітольд Песціс (Гродзенскі аграрны ўніверсітэт): ад 1995 года
3. Валянцін Валетаў (Мазырскі педагагічны ўніверсітэт імя Івана Шамякіна): ад 1997 года
4. Антон Ятусевіч (Віцебская акадэмія ветэрынарнай медыцыны): ад 1998 года
5. Ігар Сазонаў (Беларуска-расійскі ўніверсітэт): ад 1998 года

## Кадэт з «Пагоняй» сышоў з вучылішча

У кастрычніку 2015 года ў сацсетцы «Укантакце» з'явіўся здымак кадэтаў Брэсцкай абласной кадэцкай вучэльні ў Ястрамбелі пад Баранавічамі: хлопцы адзелі майкі з «Пагоняй» і сфатаграфаваліся. Хлопцаў збіраліся адлічыць з вучэльні, але розгалас у СМІ і сацыяльная кампанія перашкодзілі гэтаму.

Аднак адзін з удзельнікаў той акцыі, як высветлілася, усё ж забраў дакументы з Брэсцкай абласной кадэцкай вучэльні ў Ястрамбелі.

«Я сышоў з вучылішча, а астатнія, хто быў на фота, засталіся там», — расказаў *Intex-press* былы кадэт Мікіта.

Хэштэг #пагоняпобач быў названы «Асамблеяй недзяржаўных арганізацый Беларусі» найлепшай кампаніяй салідарнасці краіны ў 2015 годзе.

Але бацькі не хочуць Мікіту лішняй славы. Даведаўшыся, што Мікіту збіраюцца перадаць ўзнагароду «Чэмпіёны грамадзянскай супольнасці», бацькі выказаліся катэгарычна супраць.

**Intex-press.by**

**In memoriam**

## Памёр дысідэнт Валерый Сядоў, яму было 64 гады

Гэта адбылося 10 сакавіка, прычынай смерці папярэдне называецца інфаркт. Пра гэта «Нашай Ніве» паведаміла жонка Валерыя Сядова Ірына Логінава.

У Варшаве Валерый Сядоў знаходзіўся ад 2011 года, ён вучыўся па праграме Каліноўскага ў дактарантуры Універсітэта Вышынскага.

5 сакавіка яму споўнілася 64 гады.

Сам Валерый Сядоў нарадзіўся ў Грузіі, мае рускае паходжанне. Аднак у канцы 1980-х рашуча падтрымаў беларускі адраджэнскі рух, ад 1989 года быў у БНФ.

«Вось паверце, я, этнічна рускі, чалавек, які ў той час не ведаў ані слова па-беларуску, быў сябрам управы БНФ. Ані ад Вінцука Вячоркі, ані ад Івашкевіча, ані ад Зянона Пазняка я ані разу не пачуў папроку ў сваёй этнічнай прыналежнасці альбо ў няведанні мовы. У іх такіх думак нават не ўзнікала», — казаў Сядоў.

Працаваў у Інстытуце філасофіі Акадэміі навук. У 1990-м на Сядова заводзілася крымінальная справа за ўдзел у антыкамуністычным мітынгу. Тады ён залез на помнік Леніну перад Домам урада і нацягнуў на яго целагрэйку зэка ГУЛАГа з крыжом, абматаным калючым дротам.

У СІЗА ён правёў 70 дзён, больш за 30 з якіх галадаў. У 2011 годзе за ўдзел у акцыі салідарнасці з палітвязнямі Сядоў быў арыштаваны на 12 сутак.




Цяпер вырашаецца пытанне дастаўкі цела Валерыя Сядова ў Беларусь.

**ЗП**

## У Шчучыне памёр Васіль Бязмен. Яму было 50 гадоў

Пасля цяжкай і працяглай хваробы ў Шчучыне памёр актывіст Васіль Бязмен.

Ён быў актыўным сябрам легендарнай «Паходні», калі вучыўся ў Медыцынскім інстытуце. Скончыўшы вышэйшую навучальную ўстанову ў 1993-м, паехаў працаваць лекарам у раённы цэнтр Шчучын, удзельнічаў там у нацыянальным руху.

Васіль Бязмен — ураджэнец мясцовасці Багудзенка на Наваградчыне. Ягоны бацька Канстанцін Бязмен быў актыўным удзельнікам беларускага антысавецкага падполля яшчэ ў 1940-я гады.

Васілю Бязмену было толькі 50 гадоў. Пахавалі яго ў Шчучыне.

**Радыё «Рацыя»**



# Ці можа яўрэйка нарадзіць таленавітае дзіця?

Працяг са старонкі 3.

Гэты «лад» прадугледжвае стварэнне «Русі», куды ўвойдуць Беларусь і Расія, а ў перспектыве і Украіна вернецца «ва ўлонне Рускага свету». У гэтай «Русі», лічаць арганізатары канферэнцыі, трэба «адрадзіць Родавую Спрадвечную Рускую Традыцыю на глебе Ведычнай традыцыі», а таксама «праватвое забеспячэнне дзейнасці славян, асабліва рускага народа, як найбольш шматлікага суб'екта Славянскага Свету».

Гасцямі канферэнцыі былі вядомыя рускія шавіністы. Напрыклад, Сяргей Бабурын — арганізатар «рускіх маршаў» і старшыня нацыяналістычнай партыі «Расійскі агульнанародны саюз», а таксама Алег Платонаў — публіцыст імперскіх поглядаў, рэдактар малатыражнай газеты «Русскій вестнік».

## Святая Русь і яе спецслужбы

Першы дзень канферэнцыі ў Нацыянальнай бібліятэцы пачаўся з выступу Платонава. Не мае сэнсу яго пераказваць, хопіць і пераліку загалоўкаў кніг гэтага аўтара, што прадаваліся пры ўваходзе: «Праваслаўе супраць масонства», «Таемны сусветны ўрад», «Халодная вайна супраць Расіі», «Сіёнскія пратаколы ў палітыцы»... Побач прадавалі «Русскій вестнік», дзе на першай паласе сцвярджаецца, што на выбарах прэзідэнта ў ЗША пераможа Пуцін. Ляжалі і кнігі беларускіх чарнасоценцаў, каля якіх бабуля раздавала ўлёткі «Правильно говорить — Белоруссия».

Паслухаць лектараў сабралася чалавек 70, пераважна пенсіянераў. Дзве сівыя бабулі навать уключылі запіс на сваіх касетных плэерах, калі Платонава за трыбунай змяніў Павел Тулаеў — «прафесар» «Міжнароднага славянскага саюза».

«Яшчэ 20 гадоў таму з канспіролагаў смяяліся: маўляў, яны расказваюць казкі пра жыдамасонаў, але пасля падзення Чэхаславакіі і Югаславіі, СССР, серыі лакальных войнаў па ініцыятыве НАТА і Украіны стаўленне да канспіролагаў змянілася! «Опус дэі», «Чэрап ды косткі», ілюмінаты, масоны — толькі малаадукаваныя людзі сёння не ведаюць, што гэта такое», — казаў Тулаеў.

Спікера ўважліва слухалі акадэмікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, якія мусілі выступаць трохі пазней. А Тулаеў казаў пра змову Рыма і Візантыі, планы Хазарскага каганата на еўразійскае ўладарства, «ерась жыдоўствуючых». Кранаючы тэму Украіны, спікер зазначыў, што ўсім рэвалюцыям папярэднічае стварэнне таемных суполак, і рэзюмаваў, што ядром супраціву таемным таварыствам мусіць стаць «Святая Русь» і яе спецслужбы.

## Бабосаў, Вадап'янаў…

Наступным кафедру заняў беларускі выступоўца — акадэмік Яўген Бабосаў, доктар філасофскіх навук, супрацоўнік Інстытута сацыялагічных даследаванняў НАН. Ён запэўніў прысутных, што, гледзячы з Брэсцкай крэпасці ў бінокль на захад, можна ўбачыць войскі хуткага рэагавання НАТА. «Уварванне адбудзецца з захаду, — палохаў Бабосаў. — Нездарма нашыя губернатары праходзілі вучэнні тэрытарыяльнай абароны. Такая ж тэрытарыяльная абарона мусіць быць і ў Расіі». Пад канец акадэмік прыгадаў, як на беларускай мяжы «нядаўна затрымалі» 400 чалавек «тэрарыстычнай арыентацыі» з Украіны.

Далей гаварыў акадэмік Пятро Нікіценка. Ён пажаліўся, што канферэнцыя ўжо 15-я, а «лад» усё ніяк не пачне дзейнічаць. Далей ён заклікаў не вінаваціць Амерыку, Сірыю і Украіну, а жыць сваім розумам, чым выклікаў незадаволенасць Тулаева. Пры канцы доктар эканамічных навук расказаў пра «наасферную эканоміку Ладу», дзе будзе спалучацца гармонія чалавека і космасу.

Праз хвіліну за трыбунай ужо стаяў Павел Вадап'янаў — членкарэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, філосаф. «Еўропа сёння ў агоніі. Трэба адмяняць забарону на інцэст, кажуць жанчыны ў скандынаўскіх парламентах, — фантазіраваў ён. — А гей-шлюбы?.. Большасць земляў Еўропы парушаная. Некранутая толькі Расія і Канада. А ў Расіі ёсць усё! Таму стаіць мэта авалодаць рэсурсамі Расіі, задушыць яе. А для гэтага трэба абрынуць цэны на прыродныя носьбіты, ствараць духоўны крызіс», — казаў ён.

Выступоўца раскрыў слухачам прычыны глабальнай нестабільнасці: Заходняя Еўропа — у амерыканскім палоне, за канфліктамі ў Афганстане, Сірыі і Лівіі — таксама Амерыка. Пакрытыкаваў Вадап'янаў і тых, хто вінаваціць Расію ў... выкліканні землятрусаў.

Вадап'янава ўважліва слухалі некалькі маладых людзей — яго аспіранты, якіх прывалок з сабою навуковы кіраўнік.



Фота з сайта Бабурына. Лідар расійскай нацыяналістычнай партыі разам з міністрам аховы здароўя Беларусі Васілём Жарко.



Акадэмік Яўген Бабосаў (справа) з Сяргеем Бабурыным.

## «Ніколі не бачыў таленавітых дзяцей ад змяшаных шлюбаў з маці-яўрэйкай»

Потым да мікрафона запрасілі яшчэ аднаго члена-карэспандэнта НАН, доктара медыцынскіх навук Уладзіміра Растоўцава.

Ён паказаў прэзентацыю з графікамі і расказаў пра лінгвістычныя дыверсіі. «Гэта наданне пэўным тэрмінам неўласцівых ці негатыўных значэнняў», — тлумачыў Растоўцаў. Маўляў, калі слову «лібералізм» надаецца станоўчая афарбоўка, а «цнатлівасці» — пагардлівая, то гэта і ёсць лінгвістычная дыверсія.

Таксама дыверсія, калі словы «душа» і «тэлегонія» ўспрымаюцца з паняверкай, бо, паводле доктара медыцынскіх навук, тэлегонія і душа — навукова даказаныя з'явы. Пасля членкарэспандэнт НАН перайшоў да сваёй спецыяльнасці — генетыкі і расказаў пра «двайное бацькоўства». «Калі маці ведала іншых мужчын да першых родаў, дзіця ўвасабляе ў сабе гены ўсіх палавых партнёраў жанчыны», — агучыў Растоўцаў тэорыю тэлегоніі, развянчаную стагоддзе таму.

Акадэмік таксама прызнаўся, што ніколі не бачыў таленавітых дзяцей ад змяшаных шлюбаў, дзе б маці была яўрэйкай. Але вось калі славянка, маўляў, то тут у адоранасці дзіцяці сумнявацца не выпадае. Тут жа яго спыталі, ці з'яўляецца бязродным Пушкін, прадзедам якога быў афрыканец. «Ягоныя бацькі — кузэны. Яшчэ грэкі казалі, што шлюбы паміж кузэнамі — гарманізуючыя», — знайшоўся доктар медыцынскіх навук.

У праграме было шмат іншых цікавых выступаў. Напрыклад, такіх як «Досвед кіравання Івана Жахлівага ў сучасных умовах» або «Руская цывілізацыя як падмурак беларускага шляху развіцця». Госці правялі шэраг сустрэч. Так, Алег Платонаў у суботу выкрываў масонаў перад студэнтамі БДУ, а ў нядзелю сустрэўся з чытачамі ў праваслаўнай Пакроўскай царкве, што каля Драздоў.

## «Прэзідыум НАН — гэта наш штаб»

А Сяргею Бабурыну зладзілі сустрэчу проста ў актавай зале прэзідыума Акадэміі навук. Арганізатар «рускіх маршаў», лабіст ДНР і ЛНР, «ганаровы грамадзянін» Абхазіі і ардэнаносец Прыднястроўя чытаў беларускім акадэмікам лекцыю на тэму «еўразійскай інтэграцыі».

Прадстаўляў «дарагога госця» першы намеснік старшыні прэзідыума НАН Беларусі Сяргей Чыжык: «Сімвалічна, што мы сустракаемся ў прэзідыуме НАН, — адзначыў ён. — Гэта наш штаб».

Бабурын прэзентаваў свой часопіс «Славяне» і пачаў уручаць дыпломы прафесараў псеўданавуковай «Славянскай акадэміі», якая па дакументах з'яўляецца грамадскім аб'яднаннем, — ён там старшыня.

Дыпломы ад расійскага імперца атрымалі беларускія расійскія імперцы, аўтары сайта «Западрус»: Зелянкоўскі, Гронскі, Бендзін, Шаўчэнка.

А таксама — нечакана — дыплом «Славянскай акадэміі» атрымалі міністр аховы здароўя **Васіль Жарко**, ягоны намеснік **Дзмітрый Піневіч** і былы генпракурор **Рыгор Васілевіч**, якога Лукашэнка адправіў у адстаўку ў 2011.

## Геі не даюць спакою

Уручыўшы дыпломы, Бабурын сказаў поўную гневу прамову, дзе паліваў брудам Гарбачова, прарочыў яму геену агнявую і заклікаў судзіць людзей, вінаватых у развале СССР.

Не абмінуў Бабурын і папулярныя тэмы расійскай прапаганды пра духоўны крызіс у Еўропе і культ аднаполага кахання. «Максімум праз адно пакаленне ў Еўропе падохнуць геі, а застануцца добранараджаючыя жанчыны, якія будуць гаварыць па-турэцку і пакурдску», — казаў расійскі госць з трыбуны НАН РБ.

«Нас прымушалі пакаяцца за Катынь, за сталінскія рэпрэсіі. Бурбуліс плёў лухту, што трэба ўсе сталінскія заваёвы аддаць. Што трэба Выбарг і Калінінград аддаць. І, на жаль, гэтыя працэсы засталіся ў мінулым. Будзем здыхлякамі — знойдуцца палітыкі, якія і Курылы аддадуць за крэдыты», — палохаў беларускіх навукоўцаў Бабурын, а потым пачаў расказваць ім пра лёс іх данецкіх калег: «Каля я прыязджаю ў Данецк, а я там прафесар, мне людзі, прафесары, задаюць пытанні. Маўляў, да сябе вы нас не ўзялі, незалежнасці не прызналі. Што, будзеце назад запіхваць ва Украіну? І я ім кажу, што мы не дапусцім здрады, будзем вас абараняць і дапамагаць увесь час», — сказаў Бабурын акадэмікам НАН Беларусі.

Яшчэ колькі хвілінаў пасля канца прамовы да Бабурына было не падысці — вакол яго таўкліся сябры прэзідыума Акадэміі навук Беларусі.

Арцём Гарбацэвіч

# Тры беларускія праграмісты стварылі ўнікальную праграму, якую набыў «Фэйсбук»

27—29 лістапада 2015 года ў Мінску праходзіць хакатон (форум распрацоўшчыкаў праграм) *Garage48*. У яго межах цягам 48 гадзін таленавітыя IT-распрацоўшчыкі ды вэбдызайнеры ператвараюць свае ідэі, над якімі працуюць некалькі гадоў, у праграмы. Найлепшай з іх становіцца MSQRD — бясплатны мабільны дадатак ад маладой беларускай кампаніі *Masquerade Technologies*, які распазнае твар і накладае эфекты кшталту макіяжу, барады ці розных эмоцый.

**У чым феномен беларускай праграмы?**

Шматлікія неабазнаныя карыстальнікі сацсетак часам здзіўляліся: навошта «Фэйсбуку» такая праграмная забаўка? І ці варта ў яе ўкладаць вялікія грошы? Варта адзначыць, што кампанія Цукерберга набыла не адну праграму, а кампанію распрацоўшчыкаў. Яны будуць удасканальваць сваю тэхналогію распазнавання твараў і «камп’ютарнага зроку». «Фэйсбук» зрабіў стратэгічны крок, набыўшы самы лепшы праграмны алгарытм, які можа выкарыстоўваць кожны чалавек на сваім смартфоне. Алгарытм праграмы MSQRD будзе ўдасканальвацца, і нас могуць чакаць глабальныя змены ў анлайнавых відэакамунікацыях — ад персанальных тэлешоу да развіцця абалонак віртуальнай рэальнасці, дзе кожная асоба можа ўвасабляцца ў розныя вобразы і ствараць новыя сэнсы і інтэлектуальныя прадукты.

Тэхналогія распазнавання твараў, як мяркуецца, будзе звышзапатрабаваная ў побыце і самых розных сферах жыцця ў найбліжэйшай будучыні.










За месяц дадатак набірае першы мільён карыстальнікаў. Праграму разрэкламавалі вядомыя галівудскія зоркі, якіх яна павесяліла: Дзі Капрыа, рэпер Снуп Дог і папулярны вядучы Зак Браф.

А 9 сакавіка, калі ў MSQRD ужо 16 мільёнаў юзераў, дадатак набывае кампанія *Facebook*. Неймаверны поспех для беларусаў.

Трыумфатарамі беларускай IT-індустрыі сталі тры беларускія хлопцы — Яўген Неўгень, Сяргей Ганчар і Яўген Зацяпякін. Але такі трыумф лёгкім падаецца толькі на першы погляд. Яўген Зацяпякін больш за 10 гадоў працаваў над тэхналогіямі распазнавання твараў і «камп’ютарным зрокам» — алгарытмам апрацоўкі камп’ютарам дадзеных з навакольнага асяроддзя. А Сяргей Ганчар і Яўген Неўгень працавалі над дзясяткамі іншых праграм і назапашвалі досвед. Перад мінскім хакатонам хлопцы звярнуліся да Зацяпякіна са сваёй ідэяй, ну а далей пачаўся поспех праграмы MSQRD.

«MSQRD добра заточаны пад інтэрактыў. У іншых падобных дадатках варта табе толькі адкрыць рот, як ты губляеш кантроль над маскай — пачынае прайгравацца загадзя запісаная анімацыя. А мы дынамічна падладжваем усе эфекты пад рух: пад павароты галавы, міміку, грымасы. Гэта дае дадатковую ступень свабоды, можна не проста запісваць ролікі, а граць ролю, укладаць у відэа нейкую гісторыю. Думаю, такі моцны віртуальны эфект выйшаў за кошт гэтага», — тлумачыць на Kyky.org поспех дадатка адзін з распрацоўшчыкаў MSQRD Сяргей Ганчар.

Распрацоўшчыкі MSQRD Яўген Неўгень, Сяргей Ганчар і Яўген Зацяпякін нядаўна з’ехалі ў Сан-Францыска. У хуткім часе яны пяройдуць на працу ў лонданскі офіс *Facebook*. На наступны дзень, пасля таго, як інтэрнэт-гігант з капіталам 100 млрд даляраў набыў беларускую кампанію, яе заснавальнік Марк Цукерберг выклаў відэа з праграмы MSQRD, дзе расказаў, што кампанія набыла звышцікавы прадукт, і павітаў беларусаў, якія далучацца да каманды найбуйнейшай сацыяльнай сеткі свету. Сума ўгоды не раскрываецца. Але гаворка можа ісці пра дзясяткі мільёнаў даляраў.

**Сяргей Гудзілін**

# Прадстаўнік Беларусі на «Славянскім базары» прапануе абраць песню калектыўна

Аляксей Грос, які сёлета мае прэзентаваць Беларусь на «Славянскім базары», хоча, каб песню беларусы яму выбралі калектыўна.

На «Базары» спевакі выконваюць адзін «сусветны хіт» і адну «песню на славянскай мове». У якасці сусветнага хіта Грос будзе спяваць «*A Song for You*» — песню Леона Расэла, якую раней пераспявала Крысціна Агілера.

Што да песні на славянскай мове, дык спявак і ягоны прадзюсар абяцаюць прыслухацца да меркавання людзей. «Мы вырашылі не перапяваць усім знаёмыя песні, а прапануем беларусам дасылаць нам не абавязкова гатовую песню, а, магчыма, вершы Янкі Купалы ці Якуба Коласа, а музыку мы напішам», — заявілі менеджары Гроса.

Музычным прадзюсарам спевака стаў Леанід Шырын, які працаваў раней з «Новым Небам», Ірынай Дарафеевай, Русланам Аляхно, братамі Хлястовымі, Ларысай Грыбалёвай, Аляксандрам Саладухам.

Аляксею Гросу 26 гадоў, ён родам з Салігорска. У 2012-м прайшоў кастынг у прадзюсарскі цэнтр «Спамаш», з ім дагэтуль і працуе. Акрамя «Славянскага базару», спявак тройчы выходзіў у фінал беларускага адбору на «Еўрабачанне».

«Славянскі базар у Віцебску» сёлета пройдзе ў 25-ы раз. Свае прапановы можаце дасылаць на мэйл спевака — grossalexey@mail.ru.

**Мікіта Недаверкаў**






# Амерыканскі фермер аднаўляе трактар «Беларус» 1984 года

Амерыканскі фермер Дэйв МакГенры аднаўляе трактар «Беларус» 1984 года, паведамілі ў прэс-службе Мінскага трактарнага завода.

Фермер не чакаў, што прыцягне так шмат увагі. З ім сустрэўся генеральны дырэктар МТЗ Фёдар Дамаценка, які наведваў дыстрыб’ютараў у Паўночнай Амерыцы.

«Мне спадабалася канструкцыя. Трактар мае такія асаблівасці, як пнеўматычная тармазная сістэма, і пару іншых параметраў, якіх мы тут не маем. Гэта вельмі цікава», — кажа фермер.

Трактары «Беларус» упершыню былі пастаўленыя ў Паўночную Амерыку ў 1970-я. Усяго іх там прадалі больш за 50 тысяч штук.

**МН**

# Вам пакет патрэбны?



Піша **Зміцер Дрыгайла**.

За ўсё ў жыцці нам даводзіцца плаціць. Амаль. Акрамя пакетаў у крамах. Уявіце сабе ўсяго адзін вялікі гіпермаркет: у сярэднім аднамомантна працуе 20 кас цягам 14 гадзін (з 9 да 23), за адну гадзіну касіркі выдаюць прыблізна 60 пакетаў (адзін штохвіліну). Вынікам маем 16 800 пакетаў за дзень. За месяц — 504 000. І гэта толькі вялікія пакеты-майкі. Дадамо сюды яшчэ 2 мільёны маленькіх празрыстых пакетаў. І гэта з адной вялікай крамы.

Прыемна нешта атрымаць бясплатна. Не кватэру — дык хоць пакет. Але мы ці не адзіная ў Еўропе краіна, што пакуль не асэнсавала маштаб «пакетнай» праблемы. Пластыкавыя пакеты не знікаюць стагоддзямі. Штодня ў Беларусі на сметніцы трапляе каля 10 млн пакетаў — колькасць, супастаўная з колькасцю насельніцтва краіны. За год — больш за 3,5 млрд. Плюс пластыкавыя бутэлькі, аднаразовыя кантэйнеры, пракладкі, падгузнікі і г.д. Калі мы схамянёмся, можа быць позна.

Цяпер пра эканамічны бок. Яшчэ крышку палічым. Умоўная прадавачка пытаецца ў кліента: «Вам пакласці ў паперу ці ў празрысты пластыкавы пакунак?» У выпадку пакета дадамо да сумы пакупкі 0,1 умоўнага даляра. Памножылі на два мільёны? А цяпер на касе чуем: «Вам пакет патрэбны?» У выпадку станоўчага адказу дадамо ўмоўныя 0,5 даляра. І памножым на 504 000. Падлічым. Агулам — 452 000 даляраў патэнцыйнага даходу ў месяц. Толькі за пластыкавыя пакеты. Толькі ў адной вялікай краме. Тых крамаў у нас у краіне, малых і вялікіх, — дзясяткі тысяч. Гэта азначае, што гаворка ідзе пра мільярды даляраў у год толькі ад рэалізацыі пластыкавых пакетаў!

Згаджуся, пасля забароны выдачы бясплатных пакетаў лічбы паменшаюць. Людзі пойдуць у крамы са сваімі пакетамі. З пластыку, з тканіны, паперы — неістотна. І гэта, я думаю, правільна. Няма нічога бясплатнага ў свеце, апроч чалавечых зносінаў. Усё, што нам даецца не сябрамі ці сваякамі, мусіць быць зароблена. А калі даюць за так, дык альбо разлічваюць на крок у адказ, альбо штосьці проста шкада выкінуць. Так, бывае, вытворца ладзіць рэкламную ці маркетынгавую акцыю. І раздае прадукцыю бясплатна, каб мы з вамі яе пакаштавалі. Ён, вытворца, аплачвае акцыю са сваёй кішэні. І калі гэтая акцыя сканчаецца, мы потым доўга з удзячнасцю ўзгадваем шчодрасць гэтага вытворцы. А ён, вытворца, тым часам будзе эканоміць пасля свайго атракцыёну нязведанай шчодрасці. Таму такія атракцыёны й не доўжацца гадамі. А ў сітуацыю з пластыкавымі пакетамі, выглядае, варта ўмяшацца дзяржаве ў асобах двух міністэрстваў — аховы здароўя ды гандлю. І забараніць гэты небяспечны бясплатны атракцыён. Непапулярна, але, на маю думку, неабходна.

**Зміцер Дрыгайла,**
**віцэ-прэзідэнт TeleTrade**

# Тэнісістку Шарапаву злавілі на допінгу, Азаранка ёй не паспачувала

Славутая расійская тэнісістка, былая першая ракетка свету Марыя Шарапава паведаміла, што ў яе крыві падчас турніру *Australian Open* быў знойдзены забаронены прэпарат.

Тэнісістка паведаміла, што доўгі час прымала мілдранат, які нядаўна быў унесены ў спіс забароненых. Шарапава сцвярджае, што проста прапусціла той момант, калі мілдранат унеслі ў чорны спіс.

Такія тлумачэнні выглядаюць неперакананўча, бо на топ-спартсменаў працуюць цэлыя каманды, якія не могуць упускаць такія моманты.

Мілдранат, увогуле, выкарыстоўваецца для паляпшэння работы сэрца і мышцаў. Яго, напрыклад, выпісваюць дзецям, у якіх зафіксаваны парушэнні развіцця сардэчнай мышцы.

Пры дапамозе мілдранату арганізм хутчэй узнаўляецца,



прэпарат дапамагае вытрымліваць нагрузкі.

«Я дапусціла аграмадную памылку, падвяла заўзятараў і падвяла спорт, якім займаюся ад 4 гадоў», — сказала Марыя.

Шарапавай 28 гадоў. Яна мае беларускае паходжанне. Яе бацькі родам з Гомеля, там жыве яе бабуля. Бацькі пераехалі ў Сібір праз некалькі месяцаў пасля Чарнобыльскай катастрофы. Тэнісістка дапамагала беларускім дзецям з зоны, забруджанай радыяцыяй.

Шарапава мае пяць перамог у турнірах серыі «Вялікага шлема». За сваю кар'еру ў тэнісе яна зарабіла больш за 36 мільёнаў даляраў прызавых. Пасля допінг-скандалу Шарапава страціць шмат грошай. Кантракт з ёй разарвала кампанія *Nike*. Дамова была разлічаная на 8 гадоў на суму 70 мільёнаў даляраў. Праз нейкі час тое самае зрабіла аўтамабільная кампанія *Porsche* і гадзіннікавая *Tag Heuer*.

«Я не хачу гэткім чынам скончваць кар'еру і спадзяюся, што ў мяне будзе яшчэ адзін шанец», — адзначыла расіянка. Пакуль не паведамляецца, якое ж менавіта пакаранне панясе спартсменка.

Раней гучны допінг-скандал быў у расійскай зборнай па лёгкай атлетыцы. Шарапава не адзіная ў свеце, хто трапіўся на мілдранаце: дыскваліфікацыя пагражае некалькім украінскам біятланісткам, расійскаму канькабежцу Кулажнікаву, фігурыстцы Бабровай, алімпійскаму чэмпіёну па шорт-трэку Сямёну Елістратаву.

Цікава, што Шарапаву рэзка асудзіла найлепшая беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка. «Думаю, тэніс быў адным з нешматлікіх відаў спорту з сапраўды высокай рэпутацыяй. Гэтая гісторыя кінула цень на ўвесь жаночы тэніс», — сказала Вікторыя.

Першае пасяджэнне па справе Шарапавай мае адбыцца 23 сакавіка. Тэнісістцы пагражае дыскваліфікацыя на тэрмін да 4 гадоў.

**Зміцер Панкавец**

**Апытанне на nn.by**

**Як па-Вашаму, ці дапушчальна спартоўцам прымаць допінг?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 45 | 5% |
| Не | 299 | 34% |
| Вялікага спорту без допінгу не бывае, то хай труцяцца, калі хочуць | 226 | 26% |
| Ніякі падман не дапушчальны | 298 | 34% |

Усяго прагаласавала 868.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Мінулы люты стаў самым цёплым на Зямлі за ўсю гісторыю назіранняў

Мінулы люты стаў самым цёплым месяцам на Зямлі за ўсю гісторыю назіранняў, паведамляюць эксперты НАСА на падставе дадзеных, атрыманых з касмічных спадарожнікаў.

Навукоўцы называюць прычынай гэтага спалучэнне рэкордна моцнай праявы так званага «эфекту Эль-Ніньё» з працэсамі антрапагеннага глабальнага пацяплення.

Паводле вымярэнняў НАСА, глабальная сярэдняя тэмпература на паверхні Зямлі была ў гэтым лютым на 1,35 градуса вышэйшай за сярэдняе значэнне для гэтага месяца за кантрольны перыяд з 1951 па 1980 год.

А гэта значыць, што тэмпературнае адхіленне ад нормы лютага 2016 года стала самым значным за ўвесь час навуковых метэаназіранняў, то бок з 1880 года.

Такім чынам, гэты люты пабіў рэкорд «анамальнасці», які быў усталяваны месяц таму студзенем 2016 года.

Спецыялісты НАСА звяртаюць увагу на тое, што папярэдні анамальна цёплы люты быў у 1998 годзе — таксама ў год вельмі інтэнсіўнага Эль-Ніньё. Аднак тады перавышэнне сярэдняй тэмпературы над нормай склала толькі 0,846 градуса.

**Бі-бі-сі**

## Стваральнікі «Матрыцы» браты Вачоўскі сталі сёстрамі

Адна са стваральніц «Матрыцы», раней вядомая пад імем Эндзі Вачоўскі, абвясціла пра змену полу. Яна паведаміла, што стала трансгендарам і ўзяла імя Лілі.

«Шок са зменай полу — браты Вачоўскі цяпер сёстры!» — заявіла Лілі Вачоўскі.

Чатыры гады таму пра змену полу заявіла яго сястра Лана Вачоўскі, якая да гэтага насіла імя Лары.

48-гадовая Лілі Вачоўскі вырашыла публічна аб'явіць пра змену полу пасля таго, як журналісты брытанскай газеты *Daily Mail* паспрабавалі ўгаварыць яе даць інтэрв'ю на гэтую тэму.

Акрамя «Матрыцы», Вачоўскі працавалі над такімі фільмамі, як «Воблачны атлас», «Узыходжанне Юпітэр», і серыялам «Восьмае пачуццё».

У 2015 годзе шырока абмяркоўвалася навіна, што



**Лана Вачоўскі (справа) абвясціла пра змену полу чатыры гады таму.**

Брус Джэнер — алімпійскі чэмпіён у дзесяцібор'і і айчым Кім Кардаш'ян — стаў жанчынай Кейтлін Джэнер. Пасля змены полу яна з'явілася на вокладцы ліпеньскага нумара часопіса *Vanity Fair* з загалоўкам «Завіце мяне Кейтлін».

**Бі-бі-сі**

**Кіно**

## Каханне ў стылі нуар

Цана солі
**Жанр:** драма, меладрама
**Рэжысёр:** Тод Хейнс
**У ролях:** Кейт Бланшэт, Руні Мара, Кайл Чандлер, Джэйк Лэсі, Сара Полсан, Джон Магара
Вялікабрытанія, ЗША, 118 хв.
**Адзнака:** 9

**Нуар**

(фр. Film noir — «чорны фільм») — тэрмін для абазначэння галівудскіх крымінальных драм 1940—1950-х гадоў, у якіх адлюстраваная атмасфера песімізму ў грамадстве. Для іх характэрныя змрочная атмасфера цынічнага фаталізму, сціранне мяжы паміж героем і антыгероем, адносная рэалістычнасць дзеяння і цёмнае асвятленне сцэн, як правіла начных.




Нью-Ёрк 1950-х. Юная прадавачка Тарэса знаёміцца з чароўнай багатай жанчынай Кэрал. Яны паступова збліжаюцца, і Тарэса ўсведамляе, што закаханая. Дзякуючы Кэрал, Тарэса ідзе за сваёй марай — працаваць фатографам у выдавецтве, дзе пануюць мужчыны. Муж Кэрал, з якім яна знаходзіцца ў працэсе разводу, імкнецца скарыстаць сувязь дзвюх жанчын, каб атрымаць апеку над пяцігадовай дачкой і вярнуць жонку.

Сцэнар фільма заснаваны на рамане амерыканскай пісьменніцы Патрыцыі Хайсміт «Цана солі» (1952). Яе дэбютны раман, «Незнаёмцы ў цягніку» (1950), быў экранізаваны Хічкокам, а серыя кніг пра афёрыста містара Рыплі натхніла не аднаго рэжысёра. Пісьменніца хавала сваю гомасэксуальнасць і выдала «Цану солі» пад псеўданімам, але кніга атрымала вядомасць і была перавыдадзеная ў 1953 вялікім тыражом. Часткова сюжэт з'яўляецца аўтабіяграфічным.

Рэжысёрам стаў Тод Хейнс («Мяне там няма», 2007) — майстар лірычнай драмы. Стужка выдатна стылізаваная пад лёгкі нуар, пік якога ў кінаматографе прыйшоўся на 50-я. Цёмнавалосая Руні Мара («Дзяўчына з татуіроўкай дракона», 2011) выканала роль Тарэсы, а стылёвую фатальную бландзінку — Кейт Бланшэт («Язмін», 2014). Трохкутнік ім склаў Кайл Чандлер у ролі мужа Кэрал. Фільм атрымаўся ўдумлівы, паволны, але з пэўным эмацыйным накалам.

Прэм'ера фільма адбылася на Канскім кінафестывалі — 2015, дзе Руні Мара атрымала «Залатую галінку» за найлепшую жаночую ролю. Фільм атрымаў шэсць намінацый на прэмію «Оскар» і пяць — на «Залаты глобус».

**Настасся Уласава**

**Сцісла**

**Дэфіле вышыванак прайшло ў прэстыжным гандлёвым цэнтры ў Драздах**

У гандлёвым цэнтры «Арэна-Сіці» падчас кірмашу дызайнерскіх тавараў «Беларускі стыль» прайшло дэфіле «Беларуская вышыванка». «Арэна-Сіці» месціцца ў Драздах — прэстыжным квартале сталіцы, месцы жыцця найвышэйшых чыноўнікаў. Кірмаш сабраў на адной пляцоўцы дызайнераў вопраткі і аксесуараў.

**«Спрабуйма!» — у Японіі выйшаў пачатковы курс беларускай мовы для японцаў**

«Азнаямляльна-пачатковы курс беларускай мовы для японцаў» выдадзены ў якасці навучальнага матэрыялу ў цэнтры замежных моў Цукубскага ўніверсітэта (Японія). Яго склала японская лінгвістка Сіёры Кіёсава сумесна з дацэнтам БДУ Таццянай Рамзай.

**Легендарная прэмія «Рок-каранацыя» адраджаецца**

Гэтую навіну паведаміў заснавальнік прэміі Юрый Цыбін, а таксама прадзюсар і рэжысёр Сяргей Ісакаў. Пераможцаў будуць вызначаць не эксперты-музыказнаўцы, а масавы слухач праз інтэрнэт-галасаванне. Яно будзе праходзіць на партале youtube.com, дзе ўжо з'явіўся афіцыйны канал «Рок-Каранацыя». На канале ўжо выкладзеныя архіўныя відэа пачынаючы з 2000 года. Гледачы могуць убачыць «N.R.M» з Лявонам Вольскім і маладога Сяргея Міхалка.

**СМ**

# Аляксандр Лукашэнка, зрабіце падарунак беларускім жанчынам — увядзіце наркакантроль на мяжы з Расіяй!

6 сакавіка глядзеў штотыднёвую аналітычную перадачу «Контуры» на тэлеканале АНТ. На самым пачатку быў вялікі сюжэт пра міліцыю і інтэрв'ю з міністрам МУС Шуневічам, які зазначыў: «Традыцыйна Беларусь лічылася транзітнай краінай для наркотыкаў. Сёння, на жаль, мы разглядаемся наркадзялкамі як краіна-спажывец».

Далей быў вялікі рэпартаж пра барацьбу з наркотыкамі, пра судовы працэс над сямнаццаццю наркадзялкамі, і прагучалі такія словы: «Амаль усе наркотыкі прыходзяць з усходу. Надгляду на мяжы няма. Таму галоўны козыр аператыўнікаў — шырокія агентурныя сеткі ўнутры краіны». І — ніводнага слова пра намеры ці неабходнасць абараніць Беларусь ад расійскага наркатрафіку. Нагадаю, што перадача ідзе на прэзідэнцкім тэлеканале, яна аналітычная, у студыі сядзіць і разважае міністр.

Што ж адбываецца? Якія высновы можна зрабіць?

З заходняй мяжы штотыдзень прыходзяць паведамленні пра затрыманні грамадзянаў Расіі за наркотыкі. Напрыклад, «брэсцкія мытнікі затрымалі расіян з забароненымі курыльнымі сумесямі і таблеткамі, якія змяшчаюць псіхатропы. (…) Кіроўца і яго пасажырка з Расіі везлі праз пункт мытнага афармлення «Дамачава» ў Еўропу 225 таблетак Tramadol на мікрааўтобусе Mercedes Sprinter. Яшчэ 150 такіх самых прэпаратаў канфіскавалі ўжо ў рэйсавым аўтобусе Варшава—Мінск у адной з пасажырак у рэспубліканскім пункце мытнага афармлення «Варшаўскі мост». (…) А ў РПМА «Брэст-Цэнтральны» распачаты два адміністрацыйныя працэсы ў дачыненні да двух грамадзян Расіі і таджыка. Яны везлі больш за 900 грам насваю, забароненага ў Беларусі».

Крыху раней, 11 студзеня, брэсцкія мытнікі распачалі тры крымінальныя справы ў дачыненні да грамадзян, якія спрабавалі правезці праз мяжу таблеткі, якія змяшчаюць наркатычныя рэчывы. Фігурантамі сталі жыхары Беларусі і Расіі: «Грамадзянка Беларусі, якая накіроўвалася з Польшчы на турыстычным аўтобусе праз ПТА «Варшаўскі мост», спрабавала перавезці праз мяжу 100 таблетак трамадолу». У тым жа пункце афармлення ў 40-гадовага грамадзяніна Расіі «мытнікі знайшлі больш за 100 такіх самых таблетак. А пасажыр цягніка Цярэспаль—Брэст схаваў ад кантролю 27 таблетак Cirrus».

На ўсходняй мяжы — ціша. Наркотыкі плывуць беспяршкодна. Толькі чутна, што атрады мытнікаў ловяць на неіснуючай мяжы з Расіяй рыбу за тое, што перасолена ці недасолена, фрукты, гародніну… А наркотыкі едуць.

Падчас судовага працэсу над наркадзялкамі прагучала прызнанне аднаго са злачынцаў: «Скрынкі з наркотыкамі перавозіў у Беларусь з Масквы». Гэта ж паўтарыў аўтар рэпартажу на АНТ.

Дык цікава, чаму не ўводзяць наркакантроль на мяжы з Расіяй? Як сам міністр зазначыў, мы ўжо ператварыліся з транзітнай для наркаты краіны ў спажыўцоў.

Аляксандр Лукашэнка афіцыйна павіншаваў беларускіх жанчын з Міжнародным жаночым днём. Уявіце, які шыкоўны падарунак ён мог бы зрабіць усім жанчынам нашай краіны — увесці наркакантроль на мяжы з Расіяй. Тады дзеці былі б значна больш абароненыя ад наркапагрозы. Нявесты не насілі б перадачы ў турмы і рэанімацыі для сваіх жаніхоў…

**Уладзімір Падгол, Мінск**

# «Адзін рэзаў, пяцёра глядзелі і курылі»

Турма плача па тых, хто гэтую сістэму гадуе! Піша **Васіль Грынь**.

Сюды, на хутар, прыехаць на «газоне» з кунгам! У суправаджэнні трактара «Беларус» з люлькай, у самую слоту, калі дарога параскісаўшы. Аж да карлана зрабілі каляіну метраў сто, у нізінцы. А каманда — 6 чалавек, з надпісам на бартах кунга — «Электрасеткі»! Запаленыя фары, а 8-й раніцы ў тумане сунуцца, равуць маторы. З акна хаты выглядала, бы танкі едуць…

Прыехалі пад яблыні пад дратамі… Люлька не рабіла. Памацюкаліся, прывязалі нажоўку да нейкай рэйкі трохметровай, зрэзалі тры галінкі. Адзін рэзаў, пяцёра глядзелі і курылі, накідалі бычкоў. Селі назад у кунг і трактар і пашыбавалі на Гарадзэчна, зрабіўшы каляіну яшчэ глыбейшай.

Проста капец! Столькі саляры спалілі, а 6 чалавек! І ручная пілка на палцы, якая прыехала такой тэхнікай! Эфектыўней было б купіць маленькую бензапілу ды джыпік ці якую буханку, на даху драбіна, унутры дзве абвязкі і два чалавекі…

А так — проста ідыятызм, псаванне дарогі і плач турмы па тых, хто гэтую сістэму дагэтуль гадуе.

**Скрыплеў, Маладзечанскі раён**



# Дык каго я мушу ненавідзець?

Недзе ля восьмай гадзіны раніцы аўтобус пад'язджае да беларуска-літоўскай мяжы.

Звычайная карціна — чэргі з фураў і легкавікоў. Сёння перад намі толькі адзін аўтобус, таму маем спадзеў, што гэтым разам праскочым хутка. Чакаем амаль гадзіну. Назіраем за канфліктам паміж беларускімі мытнікамі і парай з першага аўтобуса. Даходзяць чуткі, што то ўкраінцы і ў іх праблемы з дакументамі. Нарэшце, іх накіроўваюць да літоўскага кантролю. Праз гадзіну і мы наганяем першы аўтобус і чакаем ізноў. Час цягнецца марудна. Кіроўцы бавяць час успамінамі, як кожны з іх раней ездзіў праз гэты памежны пераход. Да іх далучаецца адзін з пасажыраў. Паміж імі ўзнікае спрэчка. Усё як заўжды ў чарзе.

І невядома, чым скончылася б іх спрэчка, калі б каля аўтобуса не прайшлі тыя самыя ўкраінцы. Яны рухаліся назад — у бок Беларусі. Па салоне пайшоў шэпт: усё ж не пусцілі. Спрачальнікі адразу пераключыліся на абмеркаванне, бадай, самага цяжкага сёння пытання, якое падзяліла ўсіх беларусаў на два лагеры. Вось і тут — пасажыр захлынаўся слінаю, даказваў адно. А другі кіроўца не жадаў яму саступаць, прыводзіў свае аргументы. Кожны з іх быў упэўнены ў сваёй праваце. Звычайная спрэчка з, шчыра кажучы, пустымі тэзамі.

Кіроўца, які сядзеў за рулём, моўчкі ўглядаўся ў сігнал святлафора, які дазволіць чарговай паўсотні беларусаў накіравацца да літоўскага пункту пропуску. Праз момант твар святлафора мяняе колер на зялёны, шлагбаум паслухмяна падымаецца. Кіроўца выціскае счапленне і, не азіраючыся, прамаўляе:

— А вось у мяне маці — з Расіі, а бацька — украінец. Дык каго з іх я мушу ненавідзець?

Аўтобус пакрысе пачынае рухацца з разгубленай цішынёй у салоне.

**Мікалай Бязручкін**

## «Паглядзіце, як у нас»: чытач даслаў відэа пра дарогу ў Віцебскай вобласці, дзе не паедзеш хутчэй за 10 км/г

«Вырашыў звярнуцца да вас, бо болей ніхто не можа дапамагчы з гэтай праблемай, — даслаў ліст у рэдакцыю Сяргей К. — Жыву я ў Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці. У нас тут шмат архітэктурных славутасцяў, маляўнічых азёраў і г.д. Увогуле, ёсць чым ганарыцца! Але, на жаль, у гэтыя месцы вельмі складана дабрацца, бо стан дарог тут ніякі. Такое пачуццё, што пра нас проста забыліся! Хоць мы спраўна праходзім тэхагляд і плацім дарожны падатак».

«На відэа я зняў участак дарогі, якая знаходзіцца недзе за кіламетр ад Глыбокага. Там не тое што на машыне праехаць немагчыма — пешшу не прайсці! А ўвечары яшчэ і не гараць ліхтары. Вы ўяўляеце, як людзям дайсці да хаты!?»

На відэа відаць, што ўся дарога, па якой едзе машына, у выбоінах з вадой. Аператар кажа, што праз хістанне машыны яму цяжка ўтрымаць у руках тэлефон.

Таксама мужчына падкрэслівае, што ноччу ўздоўж дарогі не гараць ліхтары, таму праехаць у цёмны час яшчэ цяжэй.

«Такая сітуацыя не толькі ў гэтай вёсцы (Старыя Шунеўцы), а ва ўсіх вакольных вёсках. Па некаторых дарогах толькі на трактарах ездзіць, а недзе і не пад'едзеш да хаты, бо ямы глыбейшыя за паўметра і ўвесь час залітыя вадой. Але што казаць пра дарогі на вёсках, калі ў горадзе на некаторых вуліцах практычна такая сітуацыя. Звяртаюся да вас ад жыхароў горада і раёна, агучце, калі ласка, нашу праблему, можа, пасля гэтага ўлады ўспомняць пра народ», — падсумоўвае Сяргей К.

**АЯ**



### Прыватныя абвесткі

**Кнігарня «логвінаЎ» шукае канапу**
Для рэдакцыйнага паддашка кнігарня «логвінаЎ» будзе радая атрымаць у падарунак невялічкую ўтульную канапу, гатовую прыняць у свае абдымкі завіталых літаратараў і выдаўцоў. Можна вінтаж і другую руку. Самавывезем.
Патэнцыйныя канападаўцы! Калі ласка, звяртайцеся на адрас: lohvinaupress@gmail.com або на тэлефон: +375 44 7236574

**Рады паведаміць, што неўзабаве адкрываюцца курсы беларускай мовы з элементамі класічнага бокса.**
Заняткі ў спартыўнай зале на вул. Захарава (2—3 разы на тыдзень; аўторак, чацвер з 17.00 да 19:00; у суботу з 11:00 да 13:00).
Бюджэтны варыянт, студэнтам і школьнікам зніжка.

**Запрашаем бацькоў і іх дзетак да стварэння беларускамоўнай групы ў дзіцячым садку №376** на 2016—2017 г. на вуліцы Гамарніка 22/2 у раёне Зялёны Луг у Мінску.
Віталь Абакановіч, т. (029) 638-92-03
e-mail: abakanovich@gmail.com.



**Віншуем Дар'ю Латышаву і Антона Рудака** з узяццем шлюбу. Райцеся і кахайцеся! Сябры

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**

# Пяць фактаў пра арыштаванага мультымільянера Юрыя Чыжа

У 2011 годзе «Наша Ніва» друкавала артыкул, які падрабязна апавядаў аб гісторыі поспеху ўраджэнца Бярозаўскага раёна, ягоныя першыя крокі ў бізнэсе. Мы ўзгадваем яшчэ некаторыя моманты з біяграфіі ўладальніка «Трайпла», якія не ўвайшлі ў тую публікацыю.

### Жонка — уладальніца велнэс-клуба, дзеці вучыліся за мяжой

Святлана Чыж, жонка мільянера, у 2015 годзе трапіла ў спіс «Топ-50 самых стылёвых жанчын Беларусі» па версіі часопіса XXL.

Некалі ў інтэрв'ю «Народнай волі» Юрый Чыж казаў, што ягоная жонка выканала «свой грамадзянскі абавязак — нарадзіла і выхавала траіх дзяцей», а ўжо пасля гэтага вырашыла заняцца бізнэсам.

Яна з'яўляецца ўласніцай велнэс-клуба EVO. Велнэс — гэта такая канцэпцыя здаровага ладу жыцця, заснаваная на спалучэнні фізічнага і духоўнага здароўя. Скарыстацца паслугамі цэнтра могуць толькі члены клуба — гэта закрытая ўстанова.

Вядома, што Святлана Чыж валодае кватэрай на 300 квадратных метраў у «Доме ля Траецкага».

Старэйшыя дачка і сын Юрыя і Святланы Чыжоў атрымлівалі адукацыю за мяжой. Сяргей — у Англіі, Тацццяна — у Францыі.

Пасля вучобы ў Оксфардзе Сяргей стаў сябрам назіральнай рады Мінскага завода пеністых вінаў, акцыянерам якога з'яўляецца «Трайпл».

Малодшы сын Чыжа вучыцца ў БНТУ па спецыялізацыі «эканоміка і кіраванне вытворчасцю».

### Нацягнутыя адносіны

Юрый Чыж нязменна ўваходзіў у той невялікі пул, з якім бавіў час кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

З бізнэсмэнаў у такіх мерапрыемствах удзельнічаў яшчэ Аляксандр Шакуцін, хоць усе ведалі, што паміж гэтымі двума мільянерамі існаваў пэўны антагалізм.

Ад Чыжа да Шакуціна перайшоў ягоны колішні партнёр Алексін.

### Гадзіннікі за 400 тысяч даляраў

Скандынаўскія мільянеры стараюцца не дэманстраваць сваё багацце. Ходзяць у звычайным адзенні, ездзяць на простых машынах.

Юрый Чыж — багатыр іншага тыпу. Напрыклад, бізнэсмен заўсёды публічна з'яўляўся з вельмі дарагімі гадзіннікамі на руцэ.

У 2011 годзе «Наша Ніва» зафіксавала, што Юрый Чыж носіць плацінавы гадзіннік *Ulysse Nardin*, якіх усяго 30 штук у свеце. Цана такога гадзінніка вагалася ў раёне 400 тысяч даляраў.

Праз два гады ўладальнік «Трайпла» прыйшоў на выканкам Беларускай федэрацыі футбола з *Patek Philippe Celestial Grand Complication*, цана якога — у раёне 260 тысяч даляраў.

Вось да такіх прыгожых рэчаў меў цягу мільянер.

### Цікавая манера гуляць у футбол

Чыж — заўзяты аматар футбола і барацьбы. Ён наведваў практычна ўсе гульні свайго «Дынама». Прычым апошнім часам на стадыёне «Трактар» ён сядзеў проста на трыбунах, а не ў нейкай ложы.

Заўсёды недалёка ад яго сядзеў былы прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын. Чыж і сам не супраць пагуляць у футбол.

Галоўны трэнер зборнай Беларусі Аляксандр Хацкевіч быў сведкам, як бізнэсмен трымаецца на футбольным полі.

«Напэўна, збоку гэта выглядае досыць цікава. Эмоцый шмат. Можа, тэхнікі і майстэрства часам бракуе, але запал і энергія ўсё гэта кампенсуюць. Юрый Саныч вельмі не любіць прайграваць. Часта пачынае кіраваць усімі на полі. Гуляе выключна цэнтральнага нападніка. Часам дзейнічае за кошт тарана, часам за кошт свайго аўтарытэту. А часам бярэ на сябе судзейскія абавязкі. Спрэчная сітуацыя, супернік крычыць, мауляў, нічога не было, а Юрый Саныч спыняецца і кажа: «Не, тут сапраўды быў фол». І ўсе пагаджаюцца. Некаторыя моманты, вядома, камедыйныя», — казаў Хацкевіч у інтэрв'ю by.tribuna.

### Жарты на тэму Чыжа

Сацыяльныя сеткі бурна адрэагавалі на арышт Юрыя Чыжа.

Дразды выкраслілі Чыжа з Чырвонай кнігі (**Алесь Карніенка**)

Колькі з Драздамі ні сябруй, а ты Чыж (**Алесь Ліпай**)

Цікава, якім заводам будзе кіраваць Чыж пасля вызвалення? (**Дзяніс Блішч**)

На хуткасці 220км/г Чыж ехаў у бок Еўропы, каб праверыць, ці знятыя санкцыі (**Пятро Сідараў**)

Усё! Зараз «амерыканку» будуць называць «Домам Чыжа», а дакладней — «Хатай Чыжа» (**Сяргей Гудзілін**)

Да касьбы Лукашэнка Чыжа памілуе (**Хомса Торф**)

Чыж хацеў сысці на батыскафе праз падводную сістэму, адначасова скідваючы самаробныя бомбы з дохлых пацукоў (**Я.Хадкевіч**)

### Будаваў пад Мінскім новыя рэзідэнцыі

Чыж мае катэдж у сталічных Драздах, самым прэстыжным квартале Беларусі, але вырашыў яшчэ займець і маёнтак за межамі Мінска. Ягоны новы дом знаходзіцца каля Лагойска. Агульная плошча катэджа велізарная, ажно 875 м². У двары былі запланаваны лазня і басейн.

**Зміцер Панкавец**

# Пацаны адпомсцілі — цяпер ім пагражае расстрэл

У Полацку будуць судзіць чатырох абвінавачваных у выкраданні і забойстве.

52-гадовая жыхарка Полацка паведаміла ў міліцыю пра тое, што яе 29-гадовы сын знік без вестак. Следства высветліла, што мужчына стаў ахвярай злачынства. Было ўстаноўлена, што невядомыя гвалтоўна выкралі яго, пасадзілі ў багажнік аўтамабіля і з'ехалі — ну проста як у крымінальных серыялах.

Неўзабаве затрымалі падазраваных: 25-гадовага і 31-гадовага жыхароў Полацка. Яшчэ двое схаваліся, аднак хутка знайшлі і іх — мужчынаў, 26 і 38 гадоў.

Затрыманыя прызналіся, што пасля выкрадання вывезлі ахвяру ў бязлюдное месца і там забілі бейсбольнай бітай. Потым яны закапалі цела на беразе аднаго з азёраў Полацкага раёна, а біту выкінулі па дарозе з месца здарэння.




Біта, якой забілі ахвяру.

Матывам забойства была помста за словы. Мужчына пакрыўдзіў жонку аднаго з абвінавачаных — і той вырашыў адплаціць. І яшчэ падбіў сябрукоў.

Цяпер за дурноту яны самі будуць расплачвацца. Іх будуць судзіць за забойства з асаблівай жорсткасцю, здзейсненае групай асобаў. Максімальная мера пакарання па гэтым артыкуле — смяротная кара.

**УШ**

# Салігорская пенсіянерка наняла кілера на мужа

Следчы камітэт разглядае крымінальную справу ў дачыненні да 67-гадовай жыхаркі Салігорска. Жанчына паспрабавала замовіць забойства ўласнага мужа.

Інфармацыя аб падрыхтоўцы злачынства паступіла міліцыянтам у пачатку лютага 2016. Высветлілася, што каля месяца таму пенсіянерка пачала актыўна шукаць таго, хто б мог пазбавіць жыцця чалавека за грашовае ўзнагароджанне. І знайшла — 35-гадовага мужчыну.

Па інфармацыі следчых, матывам забойства былі грошы. Муж быў нябедным чалавекам, аднак жонка мела абмежаваны доступ да сродкаў. Вось і вырашыла атрымаць іх у спадчыну. Жыццё мужа пенсіянерка ацаніла ў 10 тысяч даляраў.

Цяпер жанчыне і яе паплечніку пагражае ад 8 гадоў да пажыццёвага зняволення.

**УШ**

# Невядомы герой-рыбак

У Рагачове мужчына выратаваў школьнікаў, што праваліліся пад лёд.

Інцыдэнт адбыўся ўвечары 5 сакавіка. Навучэнцы 1-га і 5-га класаў гулялі па лёдзе паміж мужчынамі, што рыбачылі на старым рэчышчы Дняпра ў Рагачове. Падышоўшы бліжэй да берага, дзе лёд быў вельмі тонкім, школьнікі праваліліся ў ваду. Ім на дапамогу кінуўся рыбак. Глыбіня ў тым месцы была каля 1,5 м, і каб мужчына іх не выцягнуў, выпадак мог скончыцца смяротным вынікам. Рыбак выклікаў хуткую дапамогу. Школьнікаў абследавалі і перадалі бацькам. Мужчына ж з месца рыбалкі проста сышоў. Іншыя рыбакі сказалі, што раней яго не бачылі.

**УШ**

# Сабачы вешальнік атрымаў штраф

Суд Рэчыцкага раёна пастанавіў аштрафаваць на 20 базавых велічынь мужчыну, які павесіў уласную цвярную сабаку. Яе знайшлі ў лесе недалёка ад вёскі Броннае Рэчыцкага раёна.

У ходзе следства падазрэнне пала на 51-гадовага мясцовага жыхара. Увагу міліцыянтаў прыцягнула тое, што раней з падворка мужчыны ўвесь час даносіўся сабачы брэх, а падчас абыходу стаяла цішыня. Гаспадар прызнаўся, што яго сабака панадзілася прабірацца на чужыя падворкі і нападаць на свойскую птушку. Праз гэта ў мужчыны пачаліся праблемы з суседзямі, таму ён вырашыў пазбавіцца ад жывёлы. Адвёў у лес і павесіў. Цела хацеў пахаваць, аднак выкапаць яму ў мерзлай зямлі не змог. Таму пакінуў як ёсць і пайшоў дадому.

За жорсткае абыходжанне з жывёламі мужчыну трэба будзе выплаціць штраф у 4,2 млн рублёў.

**УШ**

# Двайное забойства ў Нароўлі

5 сакавіка ў дзяжурную частку Нараўлянскага РАУС ад мясцовага жыхара паступіла паведамленне, што ў адным з прыватных дамоў знойдзена цела жанчыны без прыкмет жыцця. Следча-аператыўная група, якая прыбыла на месца здарэння, знайшла яшчэ адзін труп — яе брата.

Вядома, што падазраваны ў злачынстве ўжо затрыманы. Гэта раней неаднаразова судзімы 31-гадовы мясцовы жыхар, які днямі выйшаў на волю. Цяпер з падазраваным працуюць следчыя. Прызначаны шэраг экспертыз, дапытваюцца сведкі, высвятляюцца матывы здзейсненага злачынства.

**УШ**

## Сцісла

### От табе і конкурс

У Брэсце ўдзельнік конкурсу па хуткасным паяданні бліноў на Масленіцы падавіўся і ледзь не памёр. На шчасце, побач дзяжурыла брыгада хуткай, мужчыну выратавалі.

### У Маскве загінулі два беларусы

У падземным калектары ў расійскай сталіцы знойдзены целы двух беларусаў. СК Расіі праводзіць праверку. Папярэдняя версія — атручванне газам пры правядзенні газазварачных работ.

### Прадавалі без дакументаў

Дываны і прадметы інтэр'еру на 36,7 млрд рублёў арыштаваныя ў мінскім ГЦ «Арэна-Сіці» падчас пазапланавай праверкі. На рэчы не было патрэбных дакументаў. Тавар арыштаваны і канфіскаваны.

### Смерць у ДТЗ

5 сакавіка ў Мінску пры сутыкненні легкавіка з МАЗам загінулі дзве жанчыны, паўтарагадовая дзяўчынка трапіла ў бальніцу. Па факце аварыі праводзіцца праверка.

### Не пашанцавала

У ноч з 5 на 6 сакавіка мужчына перавозіў канём металічныя трубы. Каля вёскі Канатоп воз з'ехаў у кювет і перакуліўся. Вазніцу насмерць прыдушыла трубамі.

**УШ**

# Сям'я мінчукоў з'ехала жыць

## «Тут лепшае асяроддзе для жыцця з дзецьмі.

**Сям'я Юліі Цярэнцьевай і Станіслава Абразея паўтара года таму кардынальна змяніла сваё жыццё. З уладкаванай кватэры ў прэстыжным мінскім Уруччы, не пакінуўшы ніякіх масткоў, яны пераехалі жыць у вёску непадалёк ад Браслава.**

Юля — былая журналістка, а цяпер мама дзвюх дачок, Элі і Лілі (8 і 7 гадоў адпаведна),і двухгадовага Марка. Стась — адвакат. Яны жывуць ва ўласным доме на беразе маленькага возера, вядуць невялікую гаспадарку і пачуваюцца цалкам шчаслівымі.

Вёска называецца Заручча, жыве там каля 100 жыхароў, яна стаіць на возеры Рака (націск на першы склад).

**«Наша Ніва»: Чаму вы вырашылі адмовіцца ад «дабротаў цывілізацыі»?**

**Юлія Цярэнцьева:** Якіх «дабротаў»? Што такое жыццё сучаснай мамы ў Мінску? Гэта забегі ў паліклініку, дзе чэргі па 40—50 чалавек; немагчымасць абраць добрую школу; немагчымасць уладкаваць дзіця ў добры садок; тады штомесячныя «бацькоўскія ўнёскі» — бясконцая канкурэнцыя і распіхванне адно аднаго локцямі.

У Мінску не створана асяроддзе, зручнае для жыцця з дзецьмі.

Парковак бракуе і ў дварах, і ля розных установаў, якія трэба наведваць. Дзіцячыя пляцоўкі разламаныя і заваленыя «прадуктамі сабачай жыццядзейнасці». Я не ведаю ніводнай кавярні ці рэстарана, дзе б быў спавівальны столік, каб можна было пераадзець дзіцё.

«Мажлівасці вялікага горада» і «жыць у Мінску вельмі зручна» — гэта міфы.

Я параўноўваю Беларусь з Латвіяй, дзе цяпер часцяком бываю. [Да Латвіі з Браслава бліжэй, чым да Мінска, Віцебска, нават Глыбокага. —Рэд.] Там шмат дзіцячых пляцовак. Ля большасці гандлёвых цэнтраў — асобныя сямейныя паркоўкі. У крамах — асобныя «сямейныя» касы для наведвальнікаў з дзецьмі, цяжарных жанчын. Неяк я з двухмесячным сынам стала ў чарзе ў аптэцы — ужо праз колькі імгненняў мяне заўважылі і адразу прапусцілі да акенца. Я заплакала. Гэта і ёсць паказчык.

У Мінску стаўленне да мамы з дзецьмі зусім іншае. Ні статус, ні грошы, ні выхаванне, ні прыгожыя сукеначкі на дачушках не абароняць ад таго, што людзі раздражняюцца на цябе і тваіх дзяцей. І абавязкова сустрэнецца чалавек, які знойдзе, за што зрабіць заўвагу. Я стамілася ў імкненні адпавядаць запытам грамадства. А пра нянавісць да шматдзетных сем'яў няма чаго і казаць.

**«НН»: Цяпер у цябе няма неабходнасці зарабляць грошы, ты займаешся дзецьмі, а муж забяспечвае ўсе патрэбы сям'і. Калі б фінансавае становішча вашай сям'і было іншым — гэтаксама з'ехалі б?**

**ЮЦ:** Думала пра гэта. Хутчэй за ўсё, так. Я з тых людзей, якія пры неабходнасці заўсёды знойдуць, як зарабіць грошы. Не ганарлівая — калі спатрэбіцца, пайду й падлогі мыць.

Мы жывём тут паўтара года. Падчас турыстычнага сезону я заўважыла, што прапанова ў сярэднім па цэнах сегменце практычна адсутнічае. Адпачыць на Браслаўшчыне сапраўды стала вельмі дорага. Такім чынам, я ўбачыла свабодную нішу, якую трэба займаць. Гэта адпачынак



У Юліі і Станіслава дзве дачкі і сын. Дзеці цяпер ездзяць у садок і школу ў Браславе. Гэта прыкладна за 10 км. У садку ў групе 19 дзяцей па спісе, мова навучання ўсюды руская.



### Расходы і лагістыка

На бензін трацішца столькі ж, колькі траціш, калі жывеш у мінскім мікраараёне. Камуналкі няма, але дорага абыходзіцца электрычнасць.

**Кім працуюць ён і яна ў Браславе цяпер?**
Юля — прыватны прадпрымальнік, аказвае інфармацыйныя паслугі. Стась — адвакат Віцебскай калегіі адвакатаў.

**Як яны дабіраюцца да магазінаў, школы, банка?**
У сям'і дзве машыны. Акрамя таго, да Браслава ходзіць рэйсавы аўтобус. Дзяцей у школу/садок возіць школьны аўтобус. Школа, паліклініка, СТА, банкі — усё ў Браславе, за 7—10 км. Кругласутачны банк ёсць таксама на мяжы (за 11 км). Запраўка — за 5 км. Буйныя крамы ў Браславе («Еўраопт», «Віталіч»), крама райпо — за 3 км, аўталаўка ў вёсцы — 2 разы на тыдзень.

**Што купляюць у вясковай краме, а што — у Браславе?**
У вёсцы купляюць хлеб, бакалею, каўбасу (яна там уласнай вытворчасці, смачная), дзеці на роварах катаюцца па марозіва. У Браславе — раз на тыдзень дробнаапптовая закупка па спісе. Шмат што прывозяць з Прыбалтыкі: каву, гарбату, салодкае, пральную хімію.

**Ці яны прадалі мінскую кватэру, каб набыць гэты дом?**
Атрымаўся абмен без даплат: двушка з выдатным рамонтам ва Уруччы на гэты дом. У доме адрамантавалі толькі санвузлы. Летам плануюць перарабіць сістэму ацяплення і ўцяпліць дом звонку.

**Як яны ацяпляюць дом?**
Ёсць сістэма паравога ацяплення (кацёл, торфабрыкет, затраты каля 2 млн на год), ёсць печ. Больш падабаецца ацяпляцца печчу... Разам з лазняй на год спажываюць дзве машыны дроў (прыкладна 1,5 млн).

**Як яны бяруць ваду?**
Ёсць вясковы водаправод, але ён надта стары, вада ў ім брудная. На ўчастку ёсць і свой калодзеж, з яго электранасосам падаюць ваду ў дом. Вада смачная.

**Якая там каналізацыя?**
Мясцовая, септык, выкарыстоўваецца біяхімія + асенізацыя раз на год.

**Што там за інтэрнэт? Які тарыф, якая хуткасць?**
У доме оптавалакно «Белтэлекам», з мабільных апаратараў — МТС.

**Колькі каштуе «камуналка» за дом?**
Камуналкі няма, толькі электраэнергія. З улікам насоса, бойлера, будаўнічых інструментаў, без эканоміі — 500—700 кВт/г у месяц. Гэта каля 800 тысяч на сёння. Смецце вывозяць самі.

### Муж: «Пашырылася прастора для маёй мужчынскай самарэалізацыі»

**Што было самае складанае пасля пераезду?**
Толькі плюсы. Пашырылася прастора для мужчынскай самарэалізацыі. Дабавіліся прыемныя простыя абавязкі (кшталту секчы дровы, касіць траву).

**Што самае камфортнае, а што самае дыскамфортнае ў жыцці пад Браславам?**
Камфорт — значнае пашырэнне асабістай прасторы. Дыскамфорт — доўгія дарогі.

**Колькі часу на дзень траціце на гаспадарку і падтрыманне дому?**
Трачу два-тры разы на тыдзень мінімум 1,5—2 гадзіны. Калі шмат работы, клічу суседа на дапамогу — за грошы.

**Як часта цяпер вам даводзіцца бываць у Мінску?**
Мая работа звязана з выездамі, таму я бываю ў сталіцы часам і пару разоў на тыдзень. Некалькі ж разоў у месяц — дакладна.

**Ці займаецеся спортам пасля пераезду?**
Трэнажорная зала ў Браславе праз дзень, летам — бег.





Дом Юлі і Стася — просты, але прасторны. Блочны, двухпавярховы, 86 м², па польскім праекце 90-х гадоў. Зямлі 40 сотак.

# у вёску пад Браславам

## І школа лепшая, і людзі»

**Бліц**

**Як звяць дзяцей?**

Лілія, Эвеліна, Марк.

**Ваша любімая страва?**

Дранікі па сямейным рэцэпце мужа.

**Самая смачная рыба з азёр гэта…**

Судак.

**Што купляеце ў суседзяў…**

Малако.

**Калі ў хаце не засталося солі, вы…**

Ідзём да суседзяў.

**Колькі грошай ідзе на бензін у месяц ва ўмовах такога вясковага жыцця?**

На машыну Юлі — да мільёна.

**Мінск для вас гэта…**

Юнацтва.

**Самая вялікая мара ў вас гэта…**

Адкрыць наш цэнтр сямейнага адпачынку «Браслава».

**Возера ля дома — райскі спакой нават узімку.**







**Юля і Станіслаў трымаюць трохі жыўнасці дзеля дзяцей, каб тыя прывучаліся да работы.**

**Якое ваша любімае месца ў Браславе і ваколіцах?**

Брукаванка, пляж, Замкавая гара, але тады, калі там мала людзей. Найлепшае ж месца на Зямлі — уласныя арэлі на беразе возера.

для людзей з сярэднім узроўнем заробку. Для сябе я вылучыла канкрэтны напрамак: я хачу даць магчымасць адпачываць мамам з дзецьмі. Сталася так, што мінулым летам нам удалося за адну базавую велічыню набыць дабротны будынак былой школы ў невялічкай вёсцы на беразе возера. Вось гэтым праектам я цяпер і займаюся — перабудоўваю былую школу ў цэнтр сямейнага адпачынку.

**«НН»: Як ставяцца да вас мясцовыя жыхары?**

**ЮЦ:** Мясцовыя жыхары — спакойныя, зычлівыя, яны добра разумеюць, што такое душэўны камфорт, і ўмеюць яго знаходзіць, не баючыся рабіць дзеля гэтага смелыя крокі. З іх дапамогай я зразумела, што чалавек можа быць шчаслівы паўсюль, калі ён гатовы працаваць. І спосабы заробку можна знайсці паўсюль, у тым ліку і ў Беларусі, проста ў нас можа быць больш складанасцяў, чым у Балтыі ці ў Польшчы. Але гэта цалкам магчыма.

Я за душэўны камфорт, за тое, каб людзі перасталі гвалціць сябе і займацца тым, што робіць іх нешчаслівымі. Нам гэтага вельмі не хапае, пры гэтым большасць баіцца сабе ў гэтым прызнацца і не ведае, дзе той камфорт шукаць. Мая «Браслава» павінна стаць такім месцам, куды можна прыехаць, каб знайсці свой душэўны камфорт, супакоіцца і дзяліцца гэтым спакоем — з дзецьмі, мужам, распаўсюджваць яго далей.

**«НН»: Чаму ты арыентуешся менавіта на гэтую катэгорыю — матулі з дзецьмі?**

**ЮЦ:** Ведаю па сабе: маме цяжэй за ўсе адпачыць, няхай гэта будзе хоць пяцізоркавы гатэль Хілтан «all inclusive» на беразе Атлантычнага акіяна. Калі сям'я адпачывае з дзецьмі, то мама — піянерважатая. Яна не адпачне. Я хачу, каб тая мама прыехала да мяне і ў яе быў выбар: пагуляцца з дзіцем на пляцоўцы; пакінуць яго на занятках і пайсці купацца; ці запрасіць няню і з'ехаць на шпацыр на ровары альбо заснуць на тры-чатыры гадзіны.

**«НН»: Я бачу, у вас гусі ходзяць каля дома. Ваша даволі разнастайная гаспадарка — гэта неабходнасць ці забава?**

**ЮЦ:** У тых аб'ёмах, як у нас, эканамічнага прыбытку гаспадарка нам не дае. У нас ёсць суседзі, у якіх некалькі кароў, свінні, куры дзясяткамі, і ў іх гаспадарка — гэта неблагі сродак існавання. Мы найперш узялі птушку і жывёл дзеля дзяцей. Калі ты нясеш адказнасць за істоту, што слабейшая за цябе, ты разумееш, што яна ад цябе залежыць і памрэ, калі ты пра яе не паклапоцішся — гэта фармуе іншы светапогляд.

Калі мая старэйшая дачка хадзіла ў садок у Мінску, яна мне казала: «Мама, я ажанюся з Гардзеем, бо ён дорыць мне прыгожыя цацкі». І сустракала мяне не вітаннем, а пытаннем: «Што ты мне купіла?» Дзеці вялі між сабой такія размовы: «Мая мама купіла мне новую спадніцу, яна мяне любіць. А твая цябе — не!»

А цяпер мой двухгадовы сын прыходзіць з садка і адразу бяжыць карміць курэй. Бо ён ведае, што, калі ён пакорміць курачку, — тая знясе яму яйка. А калі не пакорміць — тая памрэ. Дзеці разумеюць, што, каб было цёпла, трэба насекчы дроваў ды прапаліць печку. Каб была свежая салата, яе трэба пасадзіць ды дагледзець. І гэта важна.

Усяго агароду садзім 4—5 сотак: зеляніну, ягады, кабачкі, гарбузы — простую гародніну, якую могуць дагледзець дзеці.

**«НН»: Якія перспектывы адукацыі ў вашых дзяцей?**

**ЮЦ:** Цяпер малодшы сын наведвае дзіцячы садок, а дочкі навучаюцца ў пачатковай школе. У мяне няма ніводнага пытання ні да выхавацеляў, ні да настаўнікаў. Яны цудоўныя, сапраўдныя прафесіяналы, кожны на сваім месцы. Браслаўская гімназія, куды мае дзеці будуць паступаць пасля пачатковай школы, уваходзіць у сотню наймацнейшых сярэдніх навучальных устаноў Беларусі, няма сумневаў, што гэтая адукацыя будзе цалкам канкурэнтаздольнай побач з мінскімі школамі, дзе велізарнае пытанне з кадрамі.

А далей будзем бачыць. У Браславе таксама выдатныя музычная і мастацкая школы, дзе навучаюцца мае дзеці, з добрай класічнай базай і таксама вельмі добрымі выкладчыкамі. Агулам, я вельмі задаволеная.

**«НН»: Задумацца пра нейкія змены ў жыцці варта, калі…**

**ЮЦ:** Задумацца пра нейкія змены ў жыцці варта, калі прыходзіць разуменне, што тваё жыццё — бясконцы цэйтнот. Калі зранку выходзіш з дому, заходзіш у метро і адчуваеш нянавісць да ўсіх і кожнага. Калі садзішся ў машыну і наўмысна правакуеш астатніх кіроўцаў. У кожнага свае крыніцы спакою, я не кажу, што ўсім трэба ўсё кінуць і ехаць у вёску. Нехта будзе шчаслівы за камп'ютарам у невялічкай кватэрцы на апошнім паверсе хмарачоса. Трэба шукаць сваё.

**Гутарыла Яна Ласка**

**А што з паліклінікай у Браславе?**

Ёсць вельмі добрая паліклініка. Усе спецыялісты, якія патрэбныя нашай сям'і, ёсць. Доктар па выкліку дахаты прыязджае хутчэй, чым у Мінску.

**Дауншыфтынг**

рух, найбольш распаўсюджаны ў Аўстраліі і ЗША. Дакладны пераклад (англ. Downshifting) — пераключэнне аўтамабіля на ніжэйшую перадачу. Гэтым тэрмінам называюць філасофію «жыцця дзеля сябе», «адмаўлення ад чужых мэтаў». Людзі, якія называюць даўншыфтарамі, наўмысна адракаюцца тых даброт, якія прапагандуюцца «грамадствам спажывання», кшталту кар'еры, павелічэння матэрыяльнага капіталу, статуснасці і г.д. Некаторыя даследчыкі падзяляюць даўншыфтынг на дзве катэгорыі: «даўншыфтынг стваральнікаў» і «даўншыфтынг гультаёў». Першыя звычайна проста мяняюць свае правілы і прыярытэты. Другія, як правіла, маюць нейкую крыніцу пасіўнага заробку, напрыклад здаюць у арэнду кватэру, і вандруюць па экзатычных краінах, дзе бавяць час гультайствам. Самымі папулярнымі краінамі для гэтага лічацца Тайланд і Індыя.

**Куды цяпер яны ходзяць у цырульню?**

**Юлія:** У Браслаўі стрыжка + фарбаванне + фарба каштуе менш за 200 000.

**Станіслаў:** У Браславе, каштуе 60 тысяч.



**На заднім плане — касцёл Святога Якуба.**

**Будынак школы ў вёсцы Пеліканы ўдалося набыць за адну базавую велічыню. Школа была збудаваная яшчэ «за Пілсудскім», па тыпавым для таго часу праекце. Будавалі, як і ўсюды, мясцовыя людзі на грошы ўрада. Юлія марыць зрабіць са школы цэнтр сямейнага адпачынку. Але ж там і работы яшчэ...**



# Тэракт Івана Пуліхава «вялі» расійскія спецслужбы, а яго паплечніцу памілаваў цар, але не пашкадаваў Сталін

У ноч з 9 на 10 сакавіка 1906 быў пакараны смерцю эсэр-тэрарыст, які ўчыніў замах на мінскага губернатара Курлова. Піша гісторык **Зміцер Дрозд**.

70 гадоў савецкай улады пакінулі нам шмат асоб, дзейнасць якіх сёння можа быць ацэненая, мякка кажучы, неадназначная. І подзвігі многіх з тых, у гонар каго названы вуліцы Мінска, павінны быць пераасэнсаваныя намі ў рэаліях сённяшняга дня. Адзін з такіх «герояў» мінулых гадоў — тэрарыст Іван Пуліхаў. Днямі споўнілася 110 гадоў з дня яго страты — ён быў павешаны на варотах Мінскага турэмнага замка.

Яшчэ гадоў 20—30 таму, калі савецкія грамадзяне даведваліся аб тэрарыстычных актах толькі з навін з-за мяжы, можна было ставіцца да яго як да чалавека самых высакародных памкненняў. Але сёння, калі кожны з нас усведамляе небяспеку стаць ахвярай тэракту нават у родным Мінску (у натоўпе на свяце, у метро...), мы можам зусім па-іншаму ацаніць «подзвіг» Пуліхава.

Расійская Імперыя была далёка не ідэальнай дзяржавай, і ў сотняў тысяч яе грамадзян было за што не любіць манархію. Напэўна, у першую чаргу гэта тычыцца прадстаўнікоў нацыянальных і рэлігійных меншасцяў, якімі былі, напрыклад, габрэі і палякі. Іх жыццё падпадала пад самыя несправядлівыя дыскрымінацыйныя законы. Таму прадстаўнікоў гэтых нацыянальнасцяў шмат было сярод сяброў рэвалюцыйных партый, якія ставілі сваёй задачай змену існуючага ладу — дзяржава проста не пакідала ім іншага шанца дамагчыся свабоды, роўнасці і братэрства.



Іван Пуліхаў.

### «З шостага класа ён ужо добра зарабляў»

Пуліхаў не належаў ні да якіх дыскрымінаваных меншасцяў. Быў ён не толькі рускім і праваслаўным, але і дваранінам. Гэтае званне выслужыў цяжкай працай яго бацька, які нарадзіўся ў сялянскай сям'і, атрымаў адукацыю, скончыўшы Курскае каморніцкае вучылішча, пачаў кар'еру тапографа і выслужыў чын калежскага асэсара, які даваў дваранства... Гэта значыць, Пуліхаў-старэйшы скарыстаўся якраз тымі перавагамі і магчымасцямі, якія давала існуючая сістэма, — і фактычна зрабіў сябе сам. Быў у Пуліхава свой дом у Мінску, а Іван меў магчымасць вучыцца ў Санкт-Пецярбургу. Хоць, вядома, радасным яго жыццё не назавеш. Вось што распавядала пра яго хаўрусніца Аляксандра Ізмайловіч:

«...Ён быў найстарэйшы ў вялізнай сям'і ўсіх узростаў. Маці памерла, бацька ажаніўся з другой. Да ранейшай сям'і далучылася яшчэ новая. Тут, у сям'і, ён быў зусім адзін. Сям'я сяк-так перабівалася ў маленечкім уласным дамку ў брудным завулку на капеечнае жалаванне бацькі-каморніка. Нешта з 3-га ці 4-га класа Ваня (гэта было яго сапраўднае імя, але мы заўсёды яго клікалі Васем, так моцна прыклеілася да яго гэтая канспіратыўная мянушка...) пачаў даваць урокі. З шостага класа ён ужо добра зарабляў і жыў асобна ад сям'і.

Лёс сутыкнуў яго са старым рэвалюцыянерам: ён наняў пакой у аднаго беднага чыноўніка, ідэаліста і рэвалюцыянера. Той адкрыў яму вочы на ўсё. З краснага патрыёта Вася стаў чырвоным.

У 7-м класе ён вырашае заняцца мовамі, каб паступіць ва ўніверсітэт. Заўсёды прыкладны, старанны вучань, ён дэманстратыўна закідвае ўсе падручнікі, кажа нейкую дзёрзкасць выкладчыку, выходзіць сам з рэальнага вучылішча і едзе ў Піцер. Універсітэт малюецца яму сапраўдным храмам навук, куды ўваходзяць з непакрытай галавой і чыстым сэрцам. Ён ідзе туды з глыбокай пашанай. Расчараванне цяжкае...»

У сталіцы Пуліхаў перажывае далёка не найлепшыя часы — начуе на лавах у парку, трапляе ў паліцыю... Аднак увесь вольны час праводзіць у бібліятэцы і, нават патрапіўшы на 8 месяцаў у «прадварылку» (нешта накшталт сучаснага СІЗА), шмат чытае. Пасля ён распавядаў Ізмайловіч пра турму:

«Сумна было сыходзіць адтуль: не паспеў скончыць Маркса «Капітал». Бо наша доля такая: толькі ў турме і чытаеш».

### «Не магу ўявіць сябе тым, хто забівае чалавека»

Пуліхава вярнулі бацьку ў Мінск, і тут ён, зарабляючы нядрэнна ўрокамі, увесь час і грошы аддаваў мінскай секцыі партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў — эсэраў. Гэтая партыя ў барацьбе з царызмам актыўна выкарыстоўвала тэрор. Але яшчэ вельмі доўга ў Івана Пуліхава заставаліся сумневы, ці здольны ён забіць чалавека, пра што ўспаміна тая ж Ізмайловіч:

«Памятаю, якраз зімовай ноччу мы вярталіся з ім аднекуль, і ён, як заўсёды, калі бываў удваіх з чалавекам, да якога паспеў прывыкнуць, разгаварыўся па душы:

— Я не магу лічыць сябе сябрам партыі, — казаў ён. — Я прызнаю ў тэорыі тэрор, але ці магу я сам выступаць як тэрарыст, не ведаю.



Агентка «ахранкі» Зінаіда Жучэнка, якая прывезла няспраўную бомбу ў Мінск.

Памятаю, ён казаў гэта ўсхвалявана, з сумам. Відаць было, што яго страшна мучыць такі разлад паміж яго тэорыяй і практыкай.

— Я не магу ўявіць сябе тым, хто забівае чалавека. Я не магу не бачыць чалавека ў тым, каго мы забіваем. А чалавек — гэта ж так многа. Можа быць, я пераступлю з часам праз гэта — вырасту... не ведаю... Але цяпер я не тэрарыст.

Прайшло два гады пасля гэтага. Вася пайшоў на Курлова».

### Ці быў расстрэл «Курлоўскім»?

Падзея, якая ўвайшла ў гісторыю пад назвай «Курлоўскі расстрэл», хутчэй за ўсё, і стала тым надломам у светапоглядзе Пуліхава, пасля якога ён быў гатовы да ўсіх метадаў барацьбы, у тым ліку і тэракту, які пагражаў дзясяткамі смерцяў нявінных грамадзян. Інцыдэнт адбыўся 18 кастрычніка 1906 года падчас дазволенай губернатарам масавай акцыі ў гонар найвышэйшага маніфесту, які абяцаў: «Падараваць насельніцтву непахісныя асновы грамадзянскай свабоды на пачатках сапраўднай недатыкальнасці асобы, свабоды сумлення, слова, сходаў і саюзаў»...

Тады з-за распачатай вайскоўцамі і паліцэйскімі страляніны на Віленскім вакзале Мінска загінула не менш за 50 чалавек і больш за сотню было паранена. Але мы не маем цяпер ніякіх дакументаў, якія б даказалі, што ў трагедыі вінаваты менавіта мінскі губернатар Павел Курлоў.

Наадварот, ён быў гатовы на кампраміс і спрабаваў пазбегнуць ахвяр. Калі да губернатара з'явіліся дэлегаты ад масавага сходу на чале з выканаўцам абавязкаў мінскага гарадскога галавы Стэфановічам і запатрабавалі адпусціць усіх палітычных зняволеных, ён пайшоў ім насустрач і загадаў выпусціць з Мінскага турэмнага замка прынамсі ўсіх адміністрацыйна затрыманых.

Расстрэл дэманстрацыі быў, хутчэй, збегам абставінаў, калі з аднаго боку знаходзіўся раздражнёны натоўп, а з другога — вайсковы патруль, абавязаны ахоўваць вайсковы аб'ект, якім з'яўляецца вакзал, ад любых замахаў.

Так, загінула шмат людзей, але ж Пуліхаў, кідаючы праз нейкі час бомбу ў губернатара, які таксама знаходзіўся ў натоўпе, разумеў, што ахвярамі стануць і дзясяткі ні ў чым не вінаватых грамадзян.



Мінскі губернатар Павел Курлоў.

### Бомба, падсунутая «ахранкай»

На шчасце, тая бомба не ўзарвалася, ды і не магла: з самага пачатку замах на губернатара Курлова адбываўся пад поўным кантролем спецслужбаў таго часу — маскоўскага Ахоўнага аддзялення.

Пра гэта ў сваіх мемуарах «На лязе з тэрарыстамі» пісаў Аляксандр Герасімаў (1861—1944) — начальнік пецярбургскага Ахоўнага аддзялення: «Зімой 1905—1906 года агент маскоўскага Ахоўнага аддзялення, вядомая пасля Жучэнка, паведаміла сваім начальству, што ёй даручана рэвалюцыйнай арганізацыяй даставіць бомбу ў Мінск для замаху на мінскага губернатара Курлова, і прасіла даць указанні, як ёй быць. Начальнік аддзялення палкоўнік Клімовіч і яго памочнік фон Котэн вырашылі, што бомбу яна павінна адвезці па прызначэнні, але ў такім выглядзе, каб яна не магла выбухнуць.

Фон Котэн, былы артылерыст, сам дастаў дэтанатар з бомбы, пасля чаго Жучэнка адвезла яе ў Мінск.

Не дзіўна, што кінутая бомба не ўзарвалася, хоць трапіла Курлову, здаецца, у галаву. Рэвалюцыянер, які кінуў бомбу, быў схоплены і павешаны. Усе гэтыя падрабязнасці я чуў пасля асабіста ад фон Котэна. Я паказаў яму на недапушчальнасць такіх дзеянняў з боку Ахоўнага аддзялення, але ён у адказ толькі засмяяўся...»

Маскоўскіх сышчыкаў больш хвалявала небяспека выкрыцця сваёй агенткі Зінаіды Жучэнка, чым рызыка, што падчас іх небяспечнай гульні могуць загінуць не толькі самі тэрарысты (за падобнае злачынства ім быў перадвызначаны смяротны прысуд), але і нявінныя людзі.

### Ахвяра прасіла памілаваць тэратыстаў

Як высветлілася, паліцыянты не ўлічылі ўсіх магчымых варыянтаў развіцця падзей, і ў выніку замаху ледзь не загінуў мінскі паліцмайстар Нораў, у якога некалькі разоў стрэліла Аляксандра Ізмайловіч. У нас ёсць магчымасць даведацца аб тым, што адбылося, яшчэ ад аднаго ўдзельніка тых падзеяў — ад самой «ахвяры» замаху, губернатара Курлова, які апісаў яго ў мемуарах «Гібель імператарскай Расіі».



**Зміцер Дрозд**

гісторык-архівіст, аўтар кніг «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900», «Землеўласнікі Мінскай губерні 1900—1917». Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у «масавых беспарадках» на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Выйшаў на волю ў жніўні 2011.

Ён, падобна, не папярэджаны спецслужбамі аб магчымым замаху на яго, так апісаў гэты інцыдэнт: «14 студзеня 1906 года ў мяне была кінута другая бомба. Я прысутнічаў у Саборы на памінальнай службе па начальніку дывізіі; па заканчэнні адпявання я разам з іншымі службовымі асобамі вынес і стаў усталёўваць на пахавальную калясніцу труну нябожчыка. За мной стаяў з крыжом у руках Мінскі архіепіскап, правялебны Міхаіл, акружаны духавенствам.

Я адчуў лёгкі ўдар у галаву і, думаючы, што з даху сабора зваліўся камяк снегу, бо ў гэты час была адліга, не звярнуў на гэта ніякай увагі. Праз некалькі секунд да мяне падбег усхваляваны начальнік канцылярыі губернатара са словамі: «Ваша правасхадзіцельства! Бомба!» Я паглядзеў уніз і ўбачыў чатырохкутны скрутак у шэрай паперы, які ляжаў каля маіх ног.

Паліцмайстар прасіў мяне сесці ў экіпаж і ехаць дадому, што я і выканаў. Праз некалькі хвілін ён з'явіўся да мяне на кватэру і паведаміў, што адразу ж пасля майго ад'езду нейкая жанчына зрабіла некалькі стрэлаў з браўнінга, прычым прастрэліла яму каўнер мундзіра і каўнер паліто чыноўніка па асаблівых даручэннях. На шчасце, абодва гэтыя стрэлы не ўчынілі гэтым асобам ніякай шкоды...

Злачынец, які кінуў у мяне бомбу, аказаўся Пуліхавым, а жанчына, што страляла з браўнінга, — дачкой начальніка артылерыі IV армейскага корпуса Ізмайловіч. Абое былі арыштаваныя. Пры расследаванні высветлілася, што Пуліхаў кінуў бомбу ўверх у разліку, што яна ўпадзе на зямлю і разарвецца, але яна краем падрапала мне галаву, а затым па рукаве вышытага золатам прыдворнага мундзіра ціха скацілася да маіх ног.

У 4 гадзіны дня, за адсутнасцю спецыялістаў па разраджэнні бомбаў, яна была пакладзеная ў распаленае сярод плошчы, паміж губернатарскім домам і саборам, вогнішча. Выбух быў так моцны, што ў прылеглых да плошчы будынках былі выбітыя ўсе шыбы.

Праз некалькі дзён абаіх злачынцаў судзілі ў вайсковым судзе і прысудзілі да смяротнага пакарання, нягледзячы на тое, што я ўказваў старшыні вайсковага суда аб непажаданасці прымянення такога пакарання, бо здзейсненае Пуліхавым і Ізмайловіч з'яўлялася толькі замахам на злачынства. Камандуючы войскамі Віленскай вайсковай акругі замяніў для Ізмайловіч смяротнае пакаранне катаржнымі работамі, а ў дачыненні да Пуліхава прысуд суда зацвердзіў».

У гэты ж дзень Курлоў адправіў тэлеграму аб тым, што адбылося, імператару, дзе прасіў судзіць вінаватых вайскова-палявым судом.

Падчас стральбы Ізмайловіч не пацэліла ў паліцмайстара, параніла двух чалавек, пра што паведаміў пракурор Мінскага акруговага суда А. Зубкоў пракурору Віленскай судовай палаты А. Кароткаму: «Як устаноўлена пры далейшым следстве, з ліку публікі, што была каля Петрапаўлаўскага сабора 14 студзеня падчас вынасу цела генерала Курча, аказаліся двое параненых, а менавіта радавы Захар Патапаў і паштальён Фама Ганчарык...»

## «Твар быў чорны, вока не відаць»

Тэрарысты былі затрыманыя на месцы злачынства. Па некаторых дадзеных, паліцыя паспела адкрыць агонь у адказ, што таксама магло прывесці да новых ахвяраў, але, на шчасце, нават Пуліхаў і Ізмайловіч не пацярпелі ад гэтага агню. Праўда, ім сур'ёзна дасталася ўжо ад рук і ног паліцэйскіх. Лёс Аляксандры Ізмайловіч варты асобнага артыкула, адзначым толькі, што яна пасля затрымання зведала збіццё і здзекі. Так, яе таварыш па партыі эсэраў пісаў:

«Яе павалілі, збілі, адправілі ў пастарунак, дзе гасілі аб яе цела папяросы, катавалі так, што лопнула барабанная перапонка правага вуха. Калі я яе ўбачыў у турме, твар быў чорны, вока не відаць было — замест яго сіняя пляма...

Дасталося і Пуліхаву, пра што ўспамінала сама Ізмайловіч: «Я даведалася, што ён быў збіты яшчэ больш за маё — ён зусім не мог ляжаць, так балела спіна і бакі».

Аляксандра ж захавала для нас і ўсе падрабязнасці працэсу над імі: «... Гадзін у 11 нас з Васем павялі на суд. Вялікая светлая зала, з партрэтамі па сценах, шэрагі крэслаў, доўгі стол перад намі для суддзяў і два невялікія сталы абапал яго для абароны і пракурора. Каля праходу ў адным з шэрагаў крэслаў сядзела мая сястра Маня. Яна ўстала, калі нас праводзілі міма, і ўсміхнулася нам. Каля яе стаяў стары з сумнымі вачамі. «Бацька», — шапнуў мне Вася. Нас пасадзілі наперадзе, каля стала абаронцаў. Увайшлі суддзі. Селі. Сталі выклікаць сведак. Для нас з Васем цікавейшымі за ўсіх сведак былі, вядома, Курлоў і Нораў, асабліва першы...

Нам жудасна было весела з Васем сядзець, слухаць і абменьвацца ціхімі заўвагамі.

Адзін раз мы з ім загаварыліся і не пачулі нейкага пытання старшыні. Прыйшлося камусьці з абаронцаў падштурхнуць Васю... Давалі мы свае паказанні (ад апошняга слова мы адмовіліся): Вася, а потым я. Казалі аб дзеяннях Курлова, Норава, аб расстрэле 18 кастрычніка...

Гаварыў пракурор гучна, выразна, адсякаючы кожнае слова. Казаў ён вельмі мала. Скончыў эфектна, асабліва гучна і энергічна:

— Па законе належыць падсудным толькі адзін від пакарання — смяротная кара.

Апошнія словы ён выгукнуў, як правінцыйны трагік. Суд пайшоў раіцца.

— Івану Пуліхаву за такое злачынства, прадугледжанае такім артыкулам, — смяротная кара праз павешанне.

— Аляксандры Ізмайловіч за такое злачынства, прадугледжанае такім вось артыкулам, — смяротная кара праз павешанне.

— Бярыце падсудных...»

## Другі смяротны прысуд падпісаў Сталін

Як і меркавалі многія, датычна Аляксандры смяротная кара была замененая катаргай (да гэтага моманту павешанне было ўжыта толькі да адной жанчыны — Соф'і Пяроўскай, якая непасрэдна кіравала забойствам імператара Аляксандра ІІ).

Ізмайловіч правядзе ў Забайкаллі на Нерчынскай катарзе 11 гадоў, будзе вызваленая ў 1917, а потым пойдзе ўжо па зусім іншых судах, турмах, высылках... — па савецкіх. Аляксандра Ізмайловіч у 1937 годзе будзе асуджаная вайсковай калегіяй Вярхоўнага суда СССР да 10 гадоў пазбаўлення волі па абвінавачванні ў прыналежнасці да тэрарыстычнай арганізацыі, а 8 верасня 1941 года, пасля падпісання прысуду Сталіным, будзе асуджаная да смяротнай кары.

Ізмайловіч расстралялі 11 верасня 1941 года ў Мядзведзеўскім лесе пад Арлом, разам са 157-ю вядомымі дзяржаўнымі, партыйнымі і навуковымі дзеячамі.

## Няўдалыя ўцёкі

А вось у дачыненні да Пуліхава ні ён сам, ні яго таварышы не чакалі літасці, таму ўвесь гэты час для яго рыхтавалі ўцёкі: «Увечары Карл прастукаў мне: «Усё прапала». Аказалася, што Вася павінен быў у гэты дзень вылезці праз дзірку ў сваёй столі ў камеру крымінальных і, пераапрануўшыся крымінальным, сысці зараз жа. Саўдзельнікі праламалі дзірку ў яго столі. Заставалася толькі падняцца. Зайшоў зусім выпадкова наглядчык. Дзірка была заўважаная. Усё загінула... Зайдзі наглядчык на паўгадзіны пазней, і ён знайшоў бы ўжо Васеву камеру пустой...»

Апісала Ізмайловіч і апошні дзень Пуліхава: «Памятаю, быў сонечны зімовы дзень перад заходам, 24 лютага. У адкрытую фортку да мяне даносілася явсёлае шчабятанне вераб'інага хору. Яны як быццам сустракалі вясну, яшчэ далёкую, але ўжо адчуваную імі. На душы ў мяне была звычайная для ўсіх гэтых дзён ясная празрыстая ціхамірнасць. Памятаю, я хадзіла па вежы і слухала свае думкі. Раптам цішыню і вераб'інае шчабятанне прарэзаў гучны знаёмы голас:

— Таварышы, цяпер на спатканні бацька сказаў мне, што мой смяротны прысуд зацверджаны ...

Вася казаў пра тое, які ён сустракае смерць, як ён моцны і шчаслівы цяпер.

Раніцай на паверцы спытала наглядчыка: «Пуліхава павесілі?» Ён моўчкі, не гледзячы на мяне, кіўнуў галавой...»

Застаўся яшчэ адзін успамін відавочцаў пакарання Пуліхава, аднак невядома, наколькі яму можна давяраць, бо гэта сведчанне належыць дзецям. Захавалася яно дзякуючы мемуарам «Палёт скрозь гады» ваеннага лётчыка Аляксея Туманскага: «Аднойчы позна ўвечары да мяне зайшлі два мае найбліжэйшыя сябры па гімназіі: Грыша Камінскі і Валодзя Грыгор'еў. Пад вялікім сакрэтам яны паведамілі, што ўначы Пуліхава будуць вешаць на турэмным двары. Валодзя сказаў, што ён ведае, як убачыць двор і пакаранне смерцю, і што яны з Грышам пойдуць туды.

Назаўтра таварышы распавялі, як усё было. Яны бачылі, як Пуліхава падвялі да шыбеніцы. Рукі яго былі звязаныя. Нейкі чыноўнік чытаў паперу, потым падышоў святар і даў пацалаваць крыж. Пуліхаў адвярнуўся. Тады яму хутка накінулі на галаву чорны мяшок, паставілі на лаўку пад шыбеніцай, надзелі пятлю на шыю і выбілі з-пад ног апору.

Ён павіс на вяроўцы, і ў яго пачалі сутаргава рухацца ногі, выгінацца ўсё цела. Хлопцы больш не вытрымалі і ціхенька спусціліся з даху суседняга з турмой дома».

## Ці вінаваты Алейчык?

На наступны дзень зняволеныя спявалі рэвалюцыйныя песні, вывешвалі з вокнаў самаробныя чорныя сцягі і нават паспрабавалі не запальваць агню і аб'явіць агульную галадоўку. Яе падтрымалі некаторыя крымінальныя арыштанты, але частка палітычных аказалася не здольнай нават на такі акт салідарнасці. «А палітычныя — не ўсе сапраўдныя, ёсць зусім дрэнны народ у іх», — з горыччу сказаў адзін з крымінальнікаў Ізмайловіч. Вельмі хутка было названа і імя ката — казалі, што ім быў старшы наглядчык Канстанцін Алейчык: «Гэта старшы, Алейчык. Ён яшчэ штурхнуў Пуліхава ў варотах, нашы бачылі. Ён і пятлю зацягнуў. А другі наглядчык лямпу трымаў...

Усе яны, перабіваючы адзін аднаго, казалі, што нехта з іх бачыў на сцяне аркі паміж вонкавымі і ўнутранымі варотамі, дзе вешалі Васю, кроў, лаялі Алейчыка адборнымі словамі, распавядалі, як прагналі яго сёння з паверкі, як будуць зараз заўсёды ганяць...

У гэты дзень і ў наступныя я не раз чула, як з акна чуліся злаславыя галасы: «А, кат, крывасмок ...» і г.д. аж да нецэнзурнай лаянкі. Гэта праводзілі Алейчыка, калі ён ішоў міма вокнаў...

На другі дзень Алейчык, стары з суровым тварам, з маленькімі злоснымі вачыма ... у адзін са сваіх звычайных прыходаў спыніўся каля дзвярэй, не сыходзіў чамусьці. Я, не звяртаючы ўвагі на яго, хадзіла па камеры. Ён нерашуча пачаў: «Вам ужо паспелі нагаварыць на мяне... Няпраўда гэта, хлусяць» ... Я спынілася і, ва ўпор гледзячы яму ў вочы, спытала: «Вы павесілі Пуліхава?». Ён неяк затросся ўвесь і плачучым голасам зачасціў: «Не я ... не я ... правалiцца мне на гэтым месцы. Ды мне кавалак у горла не ідзе, як я даведаўся, што яго павесілі... Ды каб я... дваццаць пяць гадоў служу. Дзеці ў мяне малыя ёсць... А я раптам»... Некалькі дзён пасля гэтага ён не з'яўляўся да мяне і зусім не быў у турме, казалі. Крымінальныя тлумачылі яго адсутнасць страхам: «Мы сказалі, што заб'ём яго, а не пусцім да нас». Прыязджаў пракурор і як быццам бы даў слова гонару, што Алейчык не быў катам. Жарсці ўціхамірыліся, і стары зноў з'явіўся ў турме. Не ведаю, ці мелі рацыю тыя, хто яго вінаваціў».

Такім чынам, мы не можам са стапрацэнтнай дакладнасцю назваць прозвішча ката. Наўрад ці гэта быў Алейчык, бо гэта зусім не ўваходзіла ў яго абавязкі.




## Пахавалі ў сакрэтнай магіле

З мемуараў той жа Ізмайловіч відаць, што ўчынак тэрарыстаў выклікаў шчырую нянавісць у многіх: калі б бомба выбухнула ў натоўпе, загінулі б дзясяткі людзей. Таму многія з іх плявалі ў бок тэрарыстаў, жадаючы ім смерці — і любы з іх мог, не крывячы душой, прывесці смяротны прысуд у выкананне.

Але былі ў тэрарыстаў і прыхільнікі, і паслядоўнікі — іх таварышы па барацьбе. Каб пазбегнуць магчымых мітынгаў і нават паломніцтва на магілу, цела Пуліхава было таемна пахавана на Стражоўскіх могілках, і толькі пры савецкай уладзе вартаўнік адкрыў гэтае месца. У 1954 годзе пры закрыцці могілак парэшткі перапахавалі на Вайсковых могілках.

Там быў усталяваны мемарыяльны камень з тэкстам: «Івану Пуліхаву, пакаранаму смерцю ў ноч 24/25 лютага 1906 года за замах на мінскага губернатара Курлова. Ад беларускіх... паліткатаржанаў».

Сёння ўчынак Пуліхава не меў бы іншай назвы, акрамя як тэрарыстычны акт — якімі б высакароднымі памкненнямі ён не быў выкліканы. Але вуліца ў Мінску па-ранейшаму названая ў яго гонар.

Відавочна, што і ён, і Аляксандра Ізмайловіч пайшлі на гэта злачынства не з карыслівых меркаванняў. Яны былі шчыра ўпэўненыя, што такім чынам набліжаюць светлую будучыню і што дзеля гэтай будучыні можна ахвяраваць і сваімі жыццямі, і жыццямі сотняў і тысяч чалавек...

І цяжка сказаць, хто быў больш шчаслівым: Пуліхаў, пакараны смерцю з марай пра гэту будучыню, або Ізмайловіч, якая дажыла да тых «светлых дзён», прайшла праз новыя абсурдныя суды і пачула ўжо другі ў сваім жыцці смяротны прысуд. І другі раз літасці не было.


Аляксандра Ізмайловіч у Бутырскай турме.



Беларускі мастак Аляксей Панцюк-Жукоўскі стварыў карціну з выявай Лукашэнкі і яго сына Мікалая. Гэта трыпціх «На скрыжаванні стагоддзяў»: Беларусь сярэднявечная, Беларусь савецкая, маладая незалежная Беларусь.



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

12 сакавіка ў беластоцкім Лядовым палацы адбыўся канцэрт двух, як яны самі сябе акрэслілі, бескампрамісных гуртоў — Brutto і Dzieciuki. У палацы сабралася каля дзвюх тысяч чалавек. Падчас выступу ў зале разгарнулі вялізны бел-чырвона-белы сцяг. Сяргей Міхалок (на фота) шэсць гадоў не мае магчымасці выступаць у Беларусі.



БАТЭ ў шосты раз стаў уладальнікам Суперкубка Беларусі па футболе. 13 сакавіка ў Мінску барысаўскі клуб перамог салігорскі «Шахцёр» — 2:1. Матч быў сапсаваны некалькімі памылкамі суддзі. На фота: Віталь Радзівонаў дзеліцца радасцю ад перамогі з заўзятарамі.



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

Ірына Кабасакал (справа), былая рэдактарка часопіса Pingouin, стала арганізатаркай збору рэчаў на дабрачыннасць. Напярэдадні 8 Сакавіка яна штовечар прыходзіла ў гандлёвы цэнтр «Карона». Там закупляюцца ў тым ліку насельнікі Драздоў. Ідэю такога збору рэчаў падала заснавальніца фонду «Крыніца дабрыні» Ірына Тапузідзіс — жонка мультымільянера і ўладальніка «Тытунь-Інвеста» Паўла Тапузідзіса. Пасля акцый рэчы адпраўляюцца ў РНПЦ анкалогіі ў Бараўлянах, Асіповіцкі дом-інтэрнат для дзяцей з парушэннямі апорна-рухальнага апарату, Мінскі дзіцячы дом-інтэрнат №6, адзінокім пажылым пры Свята-Елісавецінскім манастыры.



5 сакавіка, у дзень смерці Сталіна, масквічы масава неслі кветкі на яго магілу.



## Анекдоты і жарты

* * *

— Я зараз выпішу вам таблеткі, будзеце прымаць іх пяць разоў на дзень пасля ежы...

— Доктар, дзе я вазьму столькі ежы, каб пяць разоў есці?

* * *

— Пры дапамозе малатка вы забілі дзясяткі чалавек і абрабавалі сотні. Што вы можаце сказаць у сваё апраўданне?

— Падсудны, сядзьце на месца і перастаньце выдурняцца.

* * *

На Алімпіядзе больш за ўсё залатых медалёў заваявала зборная алхімікаў.

* * *

– Памятаеш, ты хадзіў у краму па бульбу?

– Так. Што, мы ўжо ўсю яе з'елі?

– Не, яна ўся буракі. Схадзі яшчэ.

* * *

– Рабіновіч! Вы ўхіліліся ад выплаты падаткаў так, як у судзе расказваў пракурор?

– Зусім не так. Але яго схема заслугоўвае ўвагі...

* * *

Зборную Расіі па допінгу абвінавачваюць у занятках спортам.

* * *

– Тата, можна я пайду пагуляю?

– Спытай у мамы.

– Мама, можна я пайду пагуляю?

– Спытай у таты.

Вось так дзеці і прывыкаюць да бюракратызму.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Гінеўцы. Ашмянскі павет.** Увосень кожнага года гінеўцы ездзяць па лясах і скупляюць кляны. Накупіўшы клёну, яны ўсю зіму выраблюць з яго лыжкі. Каб не выходзіла шмат газы, злучаюцца па 10 гаспадароў і па чарадзе робяць у розных хатах. Тутака — ад маленькага, 6—7 гадкоў, хлопчыка да дзядулі 80 гадоў — кожны мае работу каля лыжак. Лыжкі гінеўцаў вельмі харошыя і моцныя. Іх знаюць і ахвотна купляюць. Перш лыжка прадавалася за 3—4 грошы, а цяперака па 5—6 капеек. Гінеўцы кажуць, што з іх кожны мае чыстага заработку ў пару каля 2 рублёў.

**«НН». №9—10. 1911.**

**Кандыдат Казулін** даказаў сваю смеласць тэлевыступамі і паходам на «ўсебеларускі народны сход». Ён выбраў нечаканую палітычную нішу радыкала-папуліста. Выхад Казуліна з кампаніі цяпер, калі магчымасці для агітацыі вычарпаныя, павялічыў бы шанцы на перамогу свабоды — проста таму, што галасы праціўнікаў Лукашэнкі не расцярушваліся, а выбар стаў бы яснейшы.

**«НН». №10. 2006.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6020. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 15.03.2016.
Замова №771.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16010